


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

29 студзеня 2021 года №5 (1344)

18+

# Аляксея Кудзіна арыштавалі ў Маскве



**Менавіта Аляксей Кудзін стаў пераможцам намінацыі «Выбар чытачоў» па выніках галасавання ў межах акцыі «Асоба года-2020» па версіі чытачоў «Рэгіянальнай газеты»**

старонка 19

**Расійскі суд арыштаваў адзінаборцу Аляксея Кудзіна на два месяцы. А ў Беларусі яго абвінавачваюць па крымінальнай справе за супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў. Як затрымалі спартсмена і што гаворыць яго жонка?**

Фота Настассі УТКІНАЙ. Аляксей Кудзін на акцыі пратэсту ў Маладзечне 10 жніўня 2020.

## Сірату з Вілейшчыны прызналі палітвязнем

старонка 8

## Маладзечанец патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што забіў знаёмага

старонка 4

## Што рабіць, калі затрымалі вашага блізкага

старонка 5

## Якіх спецыялістаў шукаюць у рэгіёне і якія грошы прапануюць

старонка 3

ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

## Адчынілі выставу «Святыні хрысціянскай веры»

**СМАРГОНЬ**

21 студзеня ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Святыні хрысціянскай веры». Ганаровымі гасцямі на адкрыцці былі начальнік аддзела культуры **Таццяна Ражава**, праваслаўныя святары, айцец **Валянцін** і айцец **Анатоль**, і пробашч касцёла **Яўген**.

На выставе прадстаўлены інфармацыйны матэрыял пра каталіцкія і праваслаўныя храмы Смаргоншчыны і шмат экспанатаў з фондаў Смаргонскага музея. Гэта абразы другой паловы 19 стагоддзя, абразкі, фотаздымкі святароў, крыжы з распяццем, кубкі, друкаваныя выданні, расказалі спецыялісты музея.

Праваслаўныя святары, айцец Валянцін і айцец Анатоль, перадалі на выставу літургічную літаратуру і рызу, каталіцкі святар Артур прапанаваў унікальнае літургічнае начынне – каталіцкае алтарнае распяцце 19 стагоддзя, алтарны рэлікварый з мошчамі святых 18 стагоддзя, трон для манстрацыі 19 стагоддзя, статую святой Кацярыны Сіенскай 19 стагоддзя, расказалі ў Смаргонскім музеі.

Выстава будзе працаваць да 28 лютага.

Музей дзякуе ўсім, хто прыняў удзел у арганізацыі і адкрыцці выставы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Памерла паэт і журналіст Валянціна Гіруць-Русакевіч

**ВАЛОЖЫН**

Валянціна Францаўна памерла 22 студзеня. Пра гэта паведамілі яе сябры.

Валянціна Гіруць-Русакевіч нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Міхайлоўшчына на Ашмяншчыне. Вершы пачала пісаць з дзяцінства. У 1975 годзе скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала ў валожынскай раённай газеце, у райвыканкаме.

Ад 2004 года кіравала народным літаратурна-мастацкім аб'яднаннем «Рунь» Валожынскага райцэнтра культуры. Шмат працавала з маладымі паэтамі. Аўтар шасці кніг паэзіі.

**Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім Валянціны Францаўны.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Не нашкодзь» было для яго не проста словам, а прафесійным крэда

## Памёр загадчык Ільянскай участковай бальніцы Юры Панятоўскі

**ВІЛЕЙКА**

**У ноч на 25 студзеня на 57 годзе жыцця памёр загадчык Ільянскай участковай бальніцы доктар агульнай практыкі Юры Лявонавіч Панятоўскі.**



Юры Панятоўскі.

Доктар Панятоўскі некалькі год супрацоўнічаў з «Рэгіянальнай газетай», ніколі не адмовіў нашым журналістам у прафесійных каментарах пры напісанні матэрыялаў на медыцынскую тэматыку.

Менавіта пры гэтым кіраўніку бальніцы ў Ілы ў 2015 годзе адкрылі адзінае аддзяленне паліятыўнай медыцынскай дапамогі ў рэгіёне. Паліятыўная медыцынская дапамога – падыход да лячэння, накіраваны на паляпшэнне якасці жыцця хворых і іх сямей, калі пацыенты сутыкнуліся з невылечнай хваробай.

У тым жа 2015 годзе Юры Лявонавіч як галоўны пазаштатны спецыяліст Мінскай вобласці па паліятыўнай медыцынскай дапамозе даросламу насельніцтву даў нашым журналістам інтэрв'ю на тэму паліятыўнай тэрапіі. Прапануем вытрымкі з інтэрв'ю.

### Доктар Панятоўскі – пра паліятыўную тэрапію

– Наша першачарговая задача – абязбольванне. Ёсць вядомая фраза, што боль – вартавы сабака здароўя. Ён як сігналізацыя: дакрануліся да гарачай пліты – рука забалела. Яе рэзка прыналі і не атрымалі апёк. Цяпер мы дадаём да фразы працяг: галоўнае, каб гэты сабака нас не загрыз. З памочніка боль можа пераратварыцца ў вялікага ворага. Раней і я казаў пацыентам: баліць – прыміце лекі, можна цярпець – цярпіце. Цяпер сітуацыю медыкі пераглядзелі: болю не павінна быць. Ён запускае небяспечныя працэсы ў арганізме: пакутуе сэрца, нервовая сістэма, павышаецца ціск. Таму мы змагаемся з болем усімі магчымымі сродкамі. Гэта тычыцца не толькі анкалогіі, але і іншых хвароб.

– Калі жанчына зацяжарала, мы ставім яе на ўлік, рэгулярна бяром аналізы, пылінкі здзімаем. Нарадзілася дзіця. Першы год яно як святое, медагляды штомесяц. У дзіцячым узросце таксама рэгулярныя агляды, аздараўленне. Чалавек вырас. Усеагульная дыспансерызацыя, ранняе выяўленне хвароб, прафілактыка. Захварэў – лечым. А як толькі апошняя стадыя раку – усе ўмылі рукі. Так быць не павінна. Вось мы і займаемся тым, каб такія хворыя атрымлівалі належны догляд.

– Гэта няпраўда, што да нас кладуць людзей, каб яны памiралі. Да нас кладуць, каб аблегчыць пакуты.

### Жыхарка Ілы, пацыентка: Мы смела давяралі яму наша здароўе

Як доктар агульнай практыкі Юры Лявонавіч прымаў пацыентаў розных узростаў. У прыватных гутарках адзначаў, што няма аднолькавых людзей і аднолькавых хвароб. А таму да кожнага пацыента шукаў і знаходзіў індывідуальны падыход.

Пра тое, якім доктарам і чалавекам быў Юры Панятоўскі, расказала жыхарка Ілы, мама двух сыноў **Людміла Буркевіч**:

– Сусвет стаў бяднейшым на аднаго цудоўнага чалавека. Заўчасна абарвалася жыццё нашага анёла-ахоўніка – доктара Ільянскай участковай бальніцы Юрыя Лявонавіча Панятоўскага.

З нашай сям'ёй ён быў звязаны вельмі моцна. У майго малодшага сына Вовы вельмі шмат праблем са здароўем. Калі сын нарадзіўся, мне ўсё дактары казалі, што такім, як усе дзеткі, ён наўрад ці будзе. Але дзякуючы Юрыю Лявонавічу, які ўсяліў у мяне надзею і аказваў усебаковую дапамогу, Вова ходзіць у школу, іграе на акардэоне, з'яўляецца рэканструктарам Першай сусветнай вайны, валанцёрам у музеі і з усімі яго дыягназамі назват праводзіць экскурсіі!

Пакліканне быць доктарам было ў Юрыя Лявонавіча ад бога. «Не нашкодзь» было для яго не проста словам, а прафесійным крэда.

> **Ён умеў няўзброеным вокам распазнаць хваробу. Заўсёды шукаў выйсце з любой сітуацыі. Наш доктар валодаў абвостраным пачуццём справядлівасці, прамалінейнасці.**

Мы смела давяралі яму наша самае каштоўнае – здароўе, і заўсёды ведалі, што яно знаходзіцца ў надзейных руках. Ведалі: у любой экстраннай сітуацыі, днём ці ўначы, будзе зроблена ўсё магчымае і немагчымае, каб апраўдаць наш давер.

Хоць жыццё нашага доктара не была лёгкім, ён паспяваў усюды: быў добрым мужам, бацькам, выдатным кіраўніком, кампанейскім чалавекам.

Да апошняга ён узначальваў бацькоўскі камітэт школы і рабіў гэта на ўсе сто працэнтаў. Нясцерпна балюча, прыкра, што так рана абарвалася жыццё гэтага выдатнага чалавека. Але я ведаю, што пакуль мы жывыя, будзе жыць і ён, бо доктар ратаваў нашы жыцці і жыцці нашых дзяцей!

Вялікі дзякуй табе, наш доктар!

**...Юрыя Лявонавіча пахавалі ў Ілы. У яго засталіся родныя і блізкія. Калектыў «Рэгіянальнай газеты» выказвае ім шчырыя спачуванні ў гэтыя цяжкі для іх час.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Вілейка – горад, дзе запатрабаваныя спецыялісты ў ветэрынарыі, а яшчэ шукаюць галоўнага рэдактара «раёнкі».

# Ці ёсць у рэгіёне вакансіі з заробкам больш за тысячу

## Паглядзелі, якіх спецыялістаў шукаюць у рэгіёне і якія грошы ім прапануюць

**Прапануем агляд заробкаў і вакансій па рэгіёне, якія з'явіліся на сайце дзяржаўнай службы занятасці ад 20 да 25 студзеня.**

### Маладзечна: Ёсць заробак 1100

Намесніка начальніка аддзела шукае Інспекцыя дзяржстандарту па Мінскай вобласці. Прапануюць заробак 1100. Практычна напалову менш атрымаюць сталяры, станочнік і швачка, якія пойдуць на «Маладзечнамэблю», і гукарэжысёр у Маладзечанскай клубнай сістэме.

Яшчэ менш прапануюць работнікам культуры. Дырэктарам і загадчыкам Дамоў культуры, мастацкаму кіраўніку, культарганізатару, кіраўніку студыі, акампаніятару абяцаюць – ад 400. У сельскай гаспадарцы – крыху больш. Аператару свінагадоўчых комплексаў – ад 800, трактарысту – ад 700.

Машыністу электравоза ў лакаматыўным дэпо прапануюць ад 900, столькі ж галоўнаму аграному ў гаспадарцы ў Заскавічах. Жывёлагадоўца там жа атрымае ад 500, кіроўца – ад 450. У гаспадарцы ў Яхімоўшчыне шукаюць трактарыста і кіроўцаў. Заробак кожнаму – ад 500.

Шмат вакансій ад «Вялес-Міта». Сюды патрэбныя прыбіральшчык, жылоўшчык, разборшчык субпрадуктаў, баец жывёлы. Найменш – ад 650 – прапануюць прыбіральшчыку. Астатнім – ад 900 і ад тысячы.

### Вілейка: Трэба шмат спецыялістаў у ветэрынарыю

У кафэ «Вілія» патрабуецца бармен. Заробак – ад 600 рублёў, у паліклініку – доктар-стаматолаг на паўстаўкі. Заробак – ад 200.

Повар у дзіцячым цэнтры развіцця можа атрымаць ад 400 рублёў, шліфоўшчык па дрэве на «Буддэталях» – ад 650.

Вілейскі райвыканкам шукае сталяра, слесара-сантэхніка і рэдактара раённай газеты. Сталяр на паўстаўкі атрымае ад 200 рублёў. Астатнія адпаведна – ад 400 і ад 566,84.

У «Дабраном» возьмуць загадчыка аддзела і касіра. Заробкі – ад 700 і ад 800.

Шмат спецыялістаў трэба ў ветэрынарыю. Шукаюць загадчыкаў ветлячэбніцы ў Даўгінава і ў Вілейку, доктара-бактэрыёлага і радыёлага (на паўстаўкі) у Вілейскую райветстанцыю, эпізаатолага ў Даўгінава, ветфельчара ў Вілейку. Заробкі – ад 400 да 600 рублёў.

У аптэку патрэбныя правізар-аналітык і правізар-тэхнолаг. Абодва на 0,28 стаўкі. Заробак – ад 280 рублёў.

### Валожын: Толькі крамы і аўтапарк

Тут вакансіі прапануюць гандлёвыя структуры і аўтапарк. У прыватную краму патрэбныя прыёмшчык тавараў і прадавец-кансультант, у «Дабраном» – кантралёр-касір. Заробак кожнаму – ад 600. Столькі ж прапануюць сістэмнаму праграмісту, які прыйдзе працаваць у філіял аўтапарка №14.

### Мядзел: За пяць дзён – дзве вакансіі

21 студзеня на сайце з'явіліся дзве вакансіі. У Мядзельскую ЦПБ шукаюць слесара-сантэхніка, у «Дабраном» – кантралёра-касіра. Заробкі ад 400 і ад 650 рублёў адпаведна.

### Астравец: Шукаюць спецыялістаў у адукацыю і спорт

Тут некалькі вакансій ад аддзела адукацыі. На стаўку – прыбіральшчык і інжынер-праграміст. На паўстаўкі – аператар ЭВМ, лабарант і повар. Прыбіральшчыку – ад 400. Інжынеру – на 50 рублёў больш. Аператару ЭВМ і лабаранту – ад 200, повару – ад 250.

Астравецкі фізкультурна-аздараўленчы комплекс шукае інструктараў па спартыўна-масавай рабоце, інжынера-энергетыка, электраманцёра, рабочага. Інструктарам прапануюць ад 465,28. І гэта самы высокі тут заробак з усіх вакансій.

### Ашмяны: ЖКГ – асноўны працадаўца

Тут шукае спецыялістаў РУП «ЖКГ». Патрэбныя качагар, прыбіральшчык, інжынер-энергетык, прыбіральшчык, аператар кацельні, электрагазазваршчык, рабочыя. Найбольш атрымае інжынер-энергетык – ад 640, электрагазазваршчык – ад 600, рабочыя – ад 500, астатнія – ад 400.

На паўстаўкі ў Цэнтр карэкцыйнага развіцця і адукацыі патрэбны доктар-спецыяліст. Заробак – ад 250 рублёў.

### Смаргонь: Возьмуць у ЖКГ і школу мастацтваў

Як і ў суседніх Ашмянах, тут патрэбныя спецыялісты ў ЖКГ – грузчык, прыбіральшчык, электраманцёр, слесар аварыйна-аднаўляльных работ, бункероўшчык. Больш за ўсіх – ад 748 рублёў – прапануюць слесару, найменш – ад 400 – бункероўшчыку.

На прыватнае прадпрыемства патрэбны станочнік па дрэве і кіроўца аўтамабіля. Кіроўцу – ад 900, станочніку – ад 1500.

Слесар-рамонтнік на мясцовым малочным камбінаце атрымае ад 550, а спецыяліст, які будзе вырабляць тварог, – на сто рублёў менш.

У мясцовую школу мастацтваў патрэбныя акампаніятары, канцэртмайстры, балетмайстры, бібліятэкар, сакратар. Амаль усе – не на поўную стаўку. Таму і заробак – ад 200 рублёў. На стаўку, за 400 рублёў, сюды ж возьмуць наладчыка клавішных музычных інструментаў.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**49 000**

столькі кватэр пабудавалі ў Беларусі ў 2020 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.01 | 28.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5391 | **2.5818** |
| Еўра | 3.0853 | **3.1368** |
| Злоты, 10 | 6.8067 | **6.8882** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4616 | **3.4399** |
| Грыўня, 100 | 8.9904 | **9.1691** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **20.01** | **27.01** |
| Еўра | 3.0200/3.1200 | **3.0700/3.1700** |
| Долар ЗША | 2.5100/2.5900 | **2.5300/2.6100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.01 | 27.01 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,45 | **20,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,50 | **18,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,00 | **2,00** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **6,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,50 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,65** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,69** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **0,95** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,00 | **6,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,99 | **6,50** |
| Авакада, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | – | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 5,50 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,70 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У краме пакупнік стукнуў ахоўніка бутэлькай па твары

**МАЛАДЗЕЧНА**

Інцыдэнт адбыўся на мінулым тыдні, у адзін з вечароў, у супермаркеце на Вялікім Гасцінцы.

Сварка пачалася, калі двое мужчын сталі ля касы, каб расплаціцца за піва. Спярша адзін з наведнікаў паспрачаўся з прадаўцом, якая адмовілася прадаваць яму цыгарэты – у той момант жанчына выкладала тавар. Затым пачаў абражаць прадаўца. За жанчыну-прадаўца заступіўся 39-гадовы ахоўнік. Ён зрабіў заўвагу грамадзяніну і папрасіў пакінуць памяшканне пасля аплаты тавару. Але канфлікт на гэтым не скончыўся. Мяркуючы па ўсім, адзін з мужчын выклікаў ахоўніка ў калідор, дзе няма камер відэаназірання, і шкляной бутэлькай з-пад піва стукнуў апанента па твары. Пасля чаго зламыснік разам з таварышам зніклі ў невядомым кірунку.

Першыя на месца прыехалі работнікі патрульна-паставой службы міліцыі і аддзела Дэпартамента аховы. Яны сталі высвятляць абставіны здарэння. Яшчэ да прыезду следча-аператыўнай групы патрульныя вывучылі запісы з камер відэаназірання. Па прыкметах ім удалося ўстанавіць асобу галоўнага фігуранта інцыдэнту – ім аказаўся беспрацоўны 46-гадовы маладзечанец. Нядаўна мужчына трапляў у поле зроку праваахоўнікаў за парушэнні ПДР.

Падазраванага затрымалі супрацоўнікі і даставілі ў РАУС. Згодна з дадзенымі экспертызы, мужчына быў п'яны. Прычыну нападу сам фігурант ніяк не растлумачыў. Яго дзеянні кваліфікавалі як асабліва злоснае хуліганства – частка 3 артыкула 339 КК Рэспублікі Беларусь. Санкцыя прадугледжвае да дзесяці гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Мужчыны скралі батарэю, каб здаць на металалом

**МЯДЗЕЛ**

На мінулым тыдні ў Мядзеле двух мясцовых жыхароў затрымала міліцыя. Мужчыны неслі на насілках радыятар ацяплення.

Фігурантаў спынілі міліцыянеры, якія былі на маршруце патрулявання. Міліцыянерам мужчыны падаліся падазронымі. Пачалі ўстанаўліваць асобы фігурантаў.

А праз гадзіну ў аператыўна-дзяжурную службу паступіла паведамленне аб крадзяжы металалому – радыятара ацяплення.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Мужчыну асудзілі за абразу Лукашэнкі і Караева

**АСТРАВЕЦ**

У Астраўцы мужчыну асудзілі за публічную абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (частка 1 артыкула 368 КК), а таксама публічную абразу прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў (артыкул 369 КК).

Як вынікае з прысуду, мужчына 1 верасня 2020 года размясціў у адрас Лукашэнкі ў адным з телеграм-каналаў «непрыстойны па форме і зневажальны па накіраванасці тэкставы каментар, супярэчны агульначалавечай маралі, усталяваным правілам зносін паміж людзьмі, які змяшчае нецэнзурныя словы».

А 28 кастрычніка 2020 года ён жа, каментуючы зварот міністра ўнутраных спраў генерал-маёра міліцыі Караева, напісаў у чаце «непрыстойныя па форме і зневажальныя па накіраванасці тэкставыя каментары, якія супярэчаць агульначалавечай маралі і ўсталяваным правілам зносін паміж людзьмі, якія змяшчаюць нецэнзурныя словы».

Абвінавачаны віну прызнаў цалкам.

Па сукупнасці яму прызначылі год і тры месяцы пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Паводле Вярхоўнага суда.**

## На пажары загінулі двое

**МАЛАДЗЕЧНА**

Паведамленне выратавальнікі атрымалі 23 студзеня, каля апоўначы. Паведамлялі пра пажар у Алёхнавічах, у двухпавярховым васьмікватэрным жылым доме на вуліцы Цэнтральнай, 8.

Калі выратавальнікі прыехалі, кватэра гарэла адкрытым полымем. Падчас тушэння на месцы пажару знайшлі абгарэлыя целы 61-гадовага наймальніка кватэры і яго 47-гадовай сужыцініцы. Кватэра цалкам выгарала знутры. Прычыны здарэння высвятляюць, расказалі ў ГРАНС Маладзечна.

МНС нагадвае: падчас пажару і іншых надзвычайных здарэнняў тэлефануйце на нумары 101 або 112.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота pxhere.com.

Маладзечанец сам набраў нумар міліцыі і прызнаўся ў забойстве.

# Маладзечанца падазраюць у забойстве

## Ён сам патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што забіў знаёмага

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паступіў званок ад невядомага. Мужчына паведаміў, што забіў знаёмага і назваў дакладны адрас, дзе адбыўся трагічны інцыдэнт.**

На месца здарэння спачатку прыехалі супрацоўнікі аддзела Дэпартамента аховы, затым – следча-аператыўная група.

Прыбыўшы па адрасе на вуліцу Касманаўтаў, ахоўнікі ўбачылі: ляжыць мужчына з множнымі раненнямі. У кватэры быў яшчэ адзін мужчына, якога адразу ж затрымалі.

У ходзе разбору стала вядома, што беспрацоўны 37-гадовы гаспадар кватэры, раней судзімы за злоснае хуліганства, забойства і незаконны абарот наркотыкаў, запрасіў у госці беспрацоўнага маладзечанца 35-ці гадоў. Паводле папярэдняй інфармацыі, спіртное ўжывалі толькі гаспадар. Яму не спадабалася, што яго госць сабраўся сыходзіць дадому. Тады гаспадар, размахваючы кухонным нажом, угаворваў госця застацца. Госць спалохаўся. Паміж мужчынамі ўспыхнуў канфлікт, падчас якога госць дастаў з кішэні складаны нож і нанёс гаспадару кватэры тры ўдары ў корпус і адзін – у шыю, пасля чаго сам паведаміў пра выпадак у міліцыю.

Па дадзеным факце ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 1 артыкуле 139 КК Рэспублікі Беларусь «Забойства». Падазраваны – у ІЧУ.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## 18-гадовы салдат стрэліў у сябе і загінуў

**АСТРАВЕЦ**

Па папярэдніх дадзеных, увечары 25 студзеня паступіла паведамленне аб смяротным агнястрэльным траўмаванні пры нясенні службы 18-гадовага вайскоўца ўнутраных войскаў, які праходзіў ваенную службу па прызыве ў вайсковай часці 7434.

Следча-аператыўная група неадкладна выбыла на месца здарэння. Следчыя з удзелам спецыялістаў правялі агляд месца здарэння, апыталі калег загінулага. Канфіскаваныя запісы камер відэаназірання, якія зафіксавалі, як вайсковец выстраліў са зброі ў сябе.

Па дадзеным факце Следчым упраўленнем УСК па Гродзенскай вобласці праводзіцца праверка, устанаўліваюцца ўсе абставіны здарэння.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Работнікі ДАІ даганялі кіроўцу. Ён аказаўся нецвярозым

**МЯДЗЕЛ**

22 студзеня каля 12 гадзін супрацоўнікі спецпадраздзялення ДАІ Мінскай вобласці затрымалі кіроўцу, які спрабаваў уцячы.

Неаднаразовыя патрабаванні аб спыненні кіроўца «Пежо-405» ігнараваў, павялічваючы пры гэтым хуткасць. Калі кіроўцу затрымалі, экспертыза паказала ў яго 2.2 праміле алкаголю.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Ноччу перакулілася фура

**ВІЛЕЙКА**

Як расказаў карэспандэнту старшы інспектар ДАІ Вілейкі **Генадзь Сяськоў**, ДТЗ адбылося 26 студзеня каля дзвюх гадзін ночы на 103-м кіламетры аўтадарогі Барысаў-Ашмяны ў Вілейскім раёне.

– 39-гадовы жыхар Барысава, кіруючы аўтамабілем «Вольва», на закругленні дарогі ўправа не справіўся з кіраваннем. Выехаў у левы па ходу руху кювет і перакуліўся, – расказаў інспектар.

Кіроўца быў цвярозы, не пацярпеў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вялікім Гасцінцы кіроўца збіў пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА**

24 студзеня каля 15 гадзін у Маладзечне, на Вялікім Гасцінцы, машына збіла жанчыну. Падрабязнасці здарэння расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

61-гадовы кіроўца-маладзечанец на машыне «Опель-Зафіра» ехаў па вуліцы Драздовіча ў кірунку Вялікага Гасцінца. На скрыжаванні гэтых вуліц ён пачаў паварочваць налева. І на Вялікім Гасцінцы наехаў на маладзечанку, якая пераходзіла дарогу па рэгулюемым пешаходным пераходзе злева направа па ходу руху транспарту.

Кіроўца быў цвярозы. На аўтамабілі – зімовыя шыны. Матэрыял праверкі – у аддзеле ДАІ. У пацярпелай жанчыны асколачны перапом пляча са змяшчэннем.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Затрымліваюць у цэнтры Маладзечна 10 жніўня.

# Што рабіць, калі затрымалі вашага блізкага

**Праваабаронца Алег Мацкевіч расказвае, што важна ведаць, калі па адміністрацыйнай справе затрымалі вашага сваяка або блізкага.**

### 1) Хто можа заключыць дамову з юрыстам? Ці толькі сваякі?

Заключыць дамову з адвакатам у інтарэсах затрыманага могуць як яго сваякі, так і іншыя людзі: сябры, знаёмыя, калегі, суседзі па дому. Згодна з Законам «Аб адвакатуры і адвакацкай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» дагавор, прадметам якога з'яўляецца аказанне юрыдычнай дапамогі, заключаецца паміж адвакатам альбо адвакацкім бюро і кліентам або іншай асобай, якія дзейнічаюць у інтарэсах кліента, у пісьмовай форме.

Дагавор заключаюць у пісьмовай форме, складаюць і падпісваюць у двух асобніках. Адзін асобнік перадаюць кліенту або іншай асобе, якая дзейнічае ў інтарэсах кліента. Другі захоўваюць у адваката, у юрыдычнай кансультацыі альбо адвакацкім бюро.

### 2) Як даведвацца аб месцы знаходжання чалавека? Ці можна патрабаваць, каб паведамілі пра яго стан здароўя?

Даведацца аб месцазнаходжанні затрыманага грамадзяніна можна праз дзяжурныя часці мясцовых аддзелаў органаў унутраных спраў. Калі ў горадзе ёсць асобныя ўстановы ў выглядзе ІЧУ (СІЗА), гэта можна зрабіць праз іх дзяжурныя часці.

Звычайна грамадзян дастаўляюць у раённыя аддзяленні міліцыі, якія знаходзяцца на тэрыторыі, дзе адбылося затрыманне. Калі правапарушэнне мае палітычны кантэкст, можна паспрабаваць высветліць месцазнаходжанне чалавека праз мясцовых праваабаронцаў або валанцёраў.

Калі грамадзянін затрыманы па парушэнні, за якое можа пагражаць адміністрацыйны арышт, ёсць сэнс шукаць яго сляды праз канцылярыю суда. Прызначаная да разгляду справа можа знаходзіцца там, калі яе матэрыялы ўжо былі належным чынам афармленыя і перададзеныя з міліцыі.

У заканадаўстве няма імператыўнай нормы, якая б дазваляла блізкім або знаёмым патрабаваць інфармацыю аб здароўі затрыманага. Пра гэта можна папрасіць. Калі ёсць такая магчымасць, можна паспрабаваць даведацца праз адваката затрыманага.

Згодна з Правіламі ўнутранага распарадку месцаў адбыцця адміністрацыйнага арышту, дастаўленых грамадзян аглядаюць медыцынскія работнікі. Калі ў штаце ізалятара няма медыцынскага работніка, пра стан здароўя арыштаваных апытвае начальнік месца адбыцця адміністрацыйнага арышту або дзяжурны. Так даведваюцца, каму патрэбная хуткая медыцынская дапамога, хто захварэў, каму патрэбныя лекі, у каго інфекцыйныя хваробы, педыкулёз, цялесныя пашкоджанні і іншае. Пра выніку апытання і іх скаргі запісваюць у журнале ўліку адміністрацыйна арыштаваных.

> **За стан здароўя адміністрацыйна затрыманага нясе адказнасць дзяржава ў асобе супрацоўнікаў сілавых структур, дзе знаходзіцца грамадзянін.**

### 3) Што класці ў перадачу?

Пералік прадметаў, рэчаў і прадуктаў харчавання, якія адміністрацыйна арыштаваныя могуць мець пры сабе, атрымліваць і адпраўляць, змешчаны ў дадатку №2 да Правілаў унутранага распарадку месцаў адбыцця адміністрацыйнага арышту.

Можна перадаваць прадукты, акрамя тых, што патрабуюць цеплавой апрацоўкі, хутка псуюцца, пратэрмінаваныя, дрожджы, алкагольныя напоі і піва.

Можна перадаваць тытунёвыя вырабы, адзенне, прадметы асабістай гігіены, акуляры, пісьмовыя прыналежнасці, туалетную паперу, прадметы рэлігійнага культу, пасцельную бялізну, кнігі, канверты, паштоўкі, маркі, падручнікі, фотаздымкі, настольныя гульні, лекі, наручны гадзіннік, кіпяцільнік, дакументы, звязаныя з адміністрацыйнай справай.

Перадачы прымаюць ад блізкіх сваякоў арыштаванага. Гэта бацькі, дзеці, усынавіцелі, усыноўленыя, родныя браты і сёстры, дзед, бабка, унукі, муж ці жонка. Каб зрабіць перадачу ад іншай асобы, патрэбны дазвол начальніка ІЧУ.

Агульная вага прадуктаў харчавання, якія арыштаваныя могуць захоўваць пры сабе, не павінна перавышаць пяць кілаграмаў. З гэтага правіла трэба сыходзіць пры зборы перадачы. На практыцы пры прыёме перадачы ўзважыць могуць як асобна прадукты харчавання, так і перадачу цалкам.

Адміністрацыйна арыштаваным можна атрымліваць пасылкі, перадачы, бандэролі і дробныя пакеты без абмежавання колькасці.

### 4) Як даведацца, дзе і калі суд? Калі адпусцяць?

Шукаць арыштаванага можна праз канцылярыю суда, які тэрытарыяльна знаходзіцца паблізу месца, дзе затрымалі грамадзяніна. Гэту ж даведку можна паспрабаваць атрымаць праз дзяжурную часць РАУС, дзе знаходзіцца затрыманы.

### 5) Калі затрыманы прымае лекі, то ці можна іх перадаць?

Адміністрацыйна арыштаваныя могуць мець пры сабе лекі толькі ў выпадку, калі іх прызначыў доктар. Калі вы хочаце пакласці іх у перадачу, трэба мець пры сабе медыцынскі дакумент, які пацвярджае патрэбу грамадзяніна ў прыёме гэтых лекаў.

### 6) Як лепш дасылаць лісты і што зрабіць, каб затрыманы змог пісаць вам?

Адміністрацыйна арыштаваны мае права атрымліваць паштовую карэспандэнцыю – лісты і тэлеграмы, мець пры сабе паштовыя канверты, паштоўкі, паперу, ручкі. Трэба мець на ўвазе, што перапіску людзей, якія адбываюць адміністрацыйны арышт, цэнзуруе адміністрацыя ізалятара. Варта пазбягаць у лістах нецэнзурнай лаянкі, абразаў, звестак, якія могуць прычыніць шкоду адрасату або аўтару карэспандэнцыі.

Каб у адміністрацыйна арыштаванага была магчымасць адказаць на лісты з волі, трэба даслаць неабходныя паштовыя і пісьмовыя прыналежнасці. Зрабіць гэта можна як дробнай бандэроллю або пакетам, гэтак і ўклаўшы ў пісьмо некалькі чыстых аркушаў паперы з маркамі і канвертамі.





* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Прычэп да УАЗ, 1100 руб, ёмістасць з нержавеючай сталі 2х1,5х1 м, 2000 руб. Валожынскі раён, в. Кражына. Т. (8-029) 1117119.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра (38,1 / 27,3 / 5) у а.г. Беразінскае Маладзечанскага раёна (15 км ад Маладзечна, 80 км ад МКАД Мінска), на першым паверсе 2-павярховага цаглянага дома. Выдатны рамонт. Развітая інфраструктура. Добрае транспартнае забеспячэнне. Торг. Т. (8-029) 3682051 Галіна.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх. (47,5 / 30,9 / 6,2). Т. (8-029) 8530568, (8-033) 3524122.*

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў вёсцы Кражына Валожынскага раёна, 120 тыс. рублёў. Т. (8-029) 1117119.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25, 1988, з навясным абсталяваннем, 13 тыс. руб. Т. (8-029) 1117119.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, ацёл у лютым.Т (8-029) 2744479.*

• Шчаня ўсходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Фотаапараты «Зеніт», «Альбар», аб'ектывы розныя. Т. (8-029) 2988005.*

# Дайджэст: Самападпал у Мінску і выбачэнні паліцэйскага ў Піцеры

## Што адбылося ў Беларусі і свеце за мінулы тыдзень

**Прапануем кароткі агляд падзей, якія адбываліся ў Беларусі і Расіі**




23 студзеня. Пратэст у Екацярынбургу.

Фота «Новай газеты».

### 9 лютага пачнецца суд над журналісткамі Андрэевай і Чульцовай

Суд па справе Кацярыны Андрэевай і Дар'і Чульцовай пачнецца ў аўторак, 9 лютага, а 10-й гадзіне. Справу ў судзе Фрунзенскага раёна будзе разглядаць суддзя **Наталля Бугук**. Журналістак «Белсата» затрымалі 15 лістапада за стрым з акцыі памяці Рамана Бандарэнкі на плошчы Перамен.

> **Журналісткам выставілі абвінавачванне паводле часткі 1 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса.**

Іх абвінавачваюць у актыўным удзеле і нават кіраванні «групавымі дзеяннямі, што груба парушаюць грамадскі парадак», якія пацягнулі за сабой парушэнне працы грамадскага транспарту.

### Ля Дома ўрада ў Мінску мужчына падпаліў сябе

22 студзеня на плошчы Незалежнасці ў Мінску чалавек падпаліў сябе. Полымя з палаючага чалавека збілі ахоўнікі Дома ўрада пры дапамозе вогнетушыцеляў, на месца здарэння прыехала «хуткая», якая забрала пацярпелага. Пазней Міндзароўя паведаміла, што мужчына знаходзіцца без прытомнасці, а пры першасным аглядзе супрацоўнікі «хуткай дапамогі» дыягнаставалі ў яго больш за 50% апёкаў. Яго транспартавалі ў Рэспубліканскі апёкавы цэнтр. Мужчыну – 35 год.

### Новыя прызначэнні: сакратар Рады бяспекі, кіраўнік Брэстчыны і дырэктар СТБ

26 студзеня Лукашэнка зрабіў некалькі кадравых прызначэнняў. Тэлеканал СТБ узначаліў **Кірыл Казакоў**, які быў генпрадзюсарам, а затым выконваў абавязкі гендырэктара тэлеканала пасля прызначэння **Ігара Луцкага** міністрам інфармацыі. Начальнік Генштаба Узброеных сіл **Аляксандр Вальфовіч** прызначаны дзяржсакратаром Рады бяспекі Беларусі. **Юры Шулейка** – новым кіраўніком Брэсцкай вобласці, ён быў памочнікам Лукашэнкі па Гомельскай вобласці. «Гродна-Азот» узначаліў былы віцэ-прэм'ер (да 2018 года) **Ігар Ляшэнка**, Камітэт дзяржкантролю – **Васіль Герасімаў**.

### Павел Сапоцька ўзначаліў Нацыянальнае агенцтва па турызме

Ураджэнец Маладзечна 29-гадовы культуролаг Павел Сапоцька, які з'яўляўся дырэктарам Нацыянальнага гістарычнага музея, узначаліў Нацыянальнае агенцтва па турызме Беларусі. Сапоцька ўзначальваў Гістарычны музей ад 2018 года. Ён скончыў маладзечанскую гімназію №7, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, магістратуру і аспірантуру. На момант прызначэння дырэктарам музея ўзначальваў мастацкую галерэю «Універсітэт культуры».

### У Расіі прайшлі акцыі ў падтрымку Аляксея Навальнага

23 студзеня расіяне выйшлі на мірныя пратэсты ў падтрымку палітыка, грамадскага дзеяча, апанента Пуціна Аляксея Навальнага. У Ніжнім на вуліцу выйшлі 10 тысяч чалавек, у Екацярынбургу, Уладзівастоку, Іркуцку і яшчэ сотні абласных гарадоў – дзе тысячы, дзе сотні. Затрымалі каля трох тысяч чалавек.

У многіх гарадах людзі прыходзілі ў тым ліку з беларускімі сцягамі. У Піцеры народ па-беларуску скандаваў «Далучайся!».

Падчас разгону акцыі ў Санкт-Пецярбургу паліцэйскі стукнуў сталую жанчыну ў жывот. Гэты момант трапіў на відэа. Жанчына аказалася ў бальніцы. У той жа дзень у палату да пацярпелай **Маргарыты Юдзінай** прыйшоў палкоўнік **Сяргей Музыка**, начальнік Упраўлення арганізацыі аховы грамадскага парадку.

> **Ён некалькі разоў папрасіў прабачэння ад імя ўсяго асабовага складу, паабяцаў разабрацца і пакараць вінаватых, а таксама любую дапамогу.**

Пасля да Юдзінай з кветкамі прыйшоў і сам паліцэйскі, які ўдарыў жанчыну ў жывот. Ён сказаў, што дзень разгону мітынгу быў цяжкім і, нібыта, за пяць хвілін да ўдару яго «заліў газам». Плюс «запацела забрала» (на відэа здарэння бачна, што яно паднятае). Паліцэйскі сказаў, што для яго гэта ўсё асабістая трагедыя.

– Увогуле, я чалавек мяккі – прабачыла. А цяпер вось думаю, трэба было мне сказаць: калі ўсіх палітвязняў выпусціце і Аляксея Навальнага таксама, тады і дарую, – заявіла Маргарыта Юдзіна ў інтэрв'ю расійскаму выданню 47news.

**Паводле БелТА, tut.by, «Нашай Нівы», mash.ru.**

# З газам жарты дрэнныя!

**Сёлета 9 студзеня каля 11 гадзін з дапамогай пагрузчыка «Амкадор» расчышчалі снег на тэрыторыі гаспадарчага праезда ў в. Краснае і ў раёне вуліцы Палявой пашкодзілі дзеючы стальны газаправод высокага ціску.**

У выніку здарэння пад пагрозай адключэння ад газазабеспячэння апынуліся больш за 400 кватэр і індывідуальных жылых дамоў, у якіх устаноўленае ацяпляльнае газавыкарыстальнае абсталяванне.

Дзякуючы прафесійным дзеянням работнікаў філіяла ВУ «Маладзечнагаз» рамонтна-аднаўленчыя работы па замене пашкоджанага ўчастка газаправода былі завершаныя ў самыя кароткія тэрміны. Газазабеспячэнне спажыўцоў падчас правядзення рамонтна-аднаўленчых работ не спынялася. Пацярпелых няма.

Прычынай інцыдэнту стала парушэнне патрабаванняў «Палажэння аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання» (далей – «Палажэнні ...»). У дачыненні да вінаватай асобы вядзецца разбор.

Філіял ВУ «Маладзечнагаз» у чарговы раз нагадвае пра неабходнасць выканання мер бяспекі пры правядзенні работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з «Палажэннем ...» для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол газазабеспячэнскай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці дакладнае размяшчэнне газаправода, для чаго папярэдне (за суткі) выклікаць прадстаўніка газазабеспячэнскай арганізацыі. Перад пачаткам работ для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўцам работ павінна быць праведзенае шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода ў прысутнасці прадстаўніка філіяла ВУ «Маладзечнагаз». Пры гэтым выканаўца работ павінны абазначыць трасу газаправода і збудаванняў на ім, забяспечыць іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

**ПАМЯТАЙЦЕ!** Парушэнне патрабаванняў «Палажэння ...» і пашкоджанне газаправода можа прывесці да ўзгарання, выбуху, чалавечых ахвяр, матэрыяльных страт і спынення газазабеспячэння спажыўцоў і цягне за сабой накладанне штрафу на вінаватую асобу ў буйным памеры.

**Аплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесенай матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.**

## Дзяўчынусірату прызналі палітвязнем

ВІЛЕЙКА

Пра гэта паведамляе незарэгістраваны ў Беларусі праваабарончы цэнтр «Вясна».

**Аляксандра Патрасаева** нарадзілася на Вілейшчыне ў 1999 годзе. У шэсць год засталася сіратой. Выхоўвалася ў Чурлёнскім вучэбна-педагагічным комплексе.

У жніўні 2020, у ноч з 10 на 11 жніўня, яе затрымалі ў Мінску. Дзяўчына выйшла на вуліцу, каб дапамагчы пацярпелым ад дзеянняў сілавікоў, таму ўзяла з сабой рэспіратары, бінты і перакіс вадароду. Трапіла пад абстрэл і аблаву, спрабавала ўцячы, але наткнулася на АМАП. Тры дні была ў ізалятары на Акрэсціна. Затым яе адпусцілі.

Другі раз Аляксандру затрымалі 30 кастрычніка мінулага года. Ёй прад'явілі абвінавачанне па артыкуле 293 Крымінальнага кодэкса – «Масавыя беспарадкі».

Паводле prisoners.spring96.org.

## У рэгіён прыедзе міністр аховы здароўя

ВІЛЕЙКА

Трэцяга лютага ў Вілейку прыедзе міністр аховы здароўя **Дзмітры Піневіч**.

Ён правядзе асабісты прыём грамадзян і прадстаўнікоў юрыдычных асоб у Вілейскім раённым выканаўчым камітэце па адрасе: Вілейка, вуліца Партызанская, 40, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.

## У райвыканкаме – новы начальнік аддзела землеўпарадкавання

ВІЛЕЙКА

Ад 21 студзеня аддзелам землеўпарадкавання Вілейскага райвыканкама будзе кіраваць **Сяргей Атрошчык**, паведамілі ў аддзеле арганізацыйна-кадравай работы.

Да прызначэння на пасаду **Сяргей Атрошчык** працаваў геадэзістам ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва Вілейшчыны.

Нагадаем, што былы начальнік аддзела **Сяргей Зубель** у снежні перайшоў на пасаду дырэктара камбікормавага завода ў Вілейцы. Ад гэтага часу аддзел землеўпарадкавання быў без кіраўніка.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

На адным са жнівеньскіх масавых мерапрыемстваў у Маладзечне.

# Штрафы за дзяцей на мітынгах і адпрацоўкі ў вольны ад працы час

## Ад 1 сакавіка за пратэсты будуць судзіць па новым кодэксе

**22 студзеня афіцыйна апублікавалі абноўлены Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Судзіць, абапіраючыся на яго, пачнуць ад сакавіка.**

### Пратэсты

Судзіць за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях будуць паводле артыкула 24.23 замест ранейшага – 23.34. Караць змогуць арыштам, грамадскімі работамі і штрафамі.

> Штрафы налічваюцца ў базавых велічынях. Нагадаем, што ад 1 студзеня базавая складае 29 рублёў.

Штрафы прадугледжаныя наступныя:

да 100 базавых велічынь – для ўдзельнікаў – да 2 900 рублёў;

да 150 базавых велічынь – для арганізатараў – да 4 350 рублёў;

да 200 базавых велічынь – за паўторнае парушэнне, удзел за ўзнагароджанне, для юрыдычных асоб – да 5 800.

### Выкарыстанне і выраб забароненых сцягоў і сімвалаў

За гэтыя парушэнні будуць судзіць па артыкуле 24.46. Штрафы наступныя:

да 20 базавых велічынь – для фізічных асоб – да 580 рублёў;

да 40 базавых велічынь – для індывідуальных прадпрымальнікаў – да 1 160 рублёў;

да 60 базавых велічынь – для юрыдычных асоб – да 1 740 рублёў.

### Выраб прадукцыі з заклікамі да экстрэмісцкай дзейнасці

Гэта артыкул 19.11. Прадугледжвае пакаранне за выраб, захоўванне, перавозку і распаўсюджанне інфармацыйнай прадукцыі з заклікамі да экстрэмізму.

Штрафы наступныя:

да 20 базавых велічынь – для фізічных асоб – да 580 рублёў;

да 50 базавых велічынь – для індывідуальных прадпрымальнікаў – да 1 450 рублёў;

да 200 базавых велічынь – для юрыдычных асоб – да 5 800 рублёў.

### Непадпарадкаванне

Артыкул 24.3 замест 23.4. За непадпарадкаванне, згодна з артыкуламі, могуць пакараць арыштам, грамадскімі работамі, штрафам да 100 базавых велічынь – да 2 900 рублёў.

### Абраза службовай асобы пры выкананні

Па артыкуле 24.4. караецца штрафам да 30 базавых велічынь – да 870 рублёў.

Калі ж абраза публічная, у СМІ ці інтэрнэце, то вінаватаму пагражае арышт, грамадскія работы, штраф да 200 базавых – да 5 800 рублёў.

### Уцягненне непаўналетняга ў антыграмадскія паводзіны

Артыкул 19.4 дапоўнілі фразай «уцягненне непаўналетняга ва ўдзел у сходзе, мітынгу, вулічным шэсці, дэманстрацыі, пікетаванні, іншым масавым мерапрыемстве, якія праводзяцца з парушэннем вызначанага парадку». Караецца штрафам да 870 рублёў

### Наўмыснае блакаванне транспартных камунікацый

У артыкул 18.1 дадалі фразу «за блакаванне ў месцы правядзення масавага мерапрыемства або са стварэннем аварыйнага становішча». Караецца штрафам да 1 450 рублёў.

> А яшчэ на тэрмін да двух гадоў у вас могуць забраць пасведчанне кіроўцы.

### Гудкі на акцыях

Гэта артыкул 18.3.4.

> Увялі адказнасць «за парушэнне правілаў карыстання гукавымі сігналамі ў месцы правядзення масавага мерапрыемства».

Вінаватаму пагражае штраф да 290 рублёў і пазбаўленне пасведчання кіроўцы да аднаго года.

Таксама ўвялі новы від пакарання – грамадскія работы.

> Яны павінны быць са згоды пакаранага, у вольны ад працы і вучобы час, не больш за чатыры гадзіны на дзень, агулам не больш за 60 гадзін і не менш за 8.

Гэты від пакарання магчымы толькі для людзей, якім ёсць 18.

Паводле pravo.by.

# субота, 6 лютага

## Беларусь 1

**6.00** Слово Митрополита Вениамина на день памяти месточтимой святой Валентины Минской и святой Ксении Петербургской.
**6.10** Існасць [СТ].
**6.35, 21.40** Х/ф **«РОДНОЕ СЕРДЦЕ».**
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье [СТ].
**10.45** «Повод есть».
**11.20, 12.10** Х/ф **«ДОЧКИ-МАТЕРИ».**
**13.25** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.10** Краіна.
**15.40** Истории спасения.
**16.10** Один день.
**16.40, 19.10** Х/ф **«БЫВШАЯ».**
**21.00** Панорама.
**1.25** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 16.30** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**9.50** Х/ф **«ВОЛЬТ».**
**11.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.10** Камень, ножницы, бумага.
**12.40** «На неделю».
**13.25** Х/ф **«РИКИ И ФЛЭШ».**
**15.05** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.
**16.00** «Короли палат «. Скетчком.
**16.35** «Развод и девичья фамилия». Реалити-шоу.
**17.35** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.
**18.40** Фильм-катастрофа «Армагеддон».
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.20** Фантастико-приключенческий экшн «Тор 2: Царство тьмы» 12+).
**23.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**8.00, 14.45** Навіны культуры.
**8.20** «Синеглазка». Мультфільм.
**8.35** «Адзінокім даецца інтэрнат». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Жывая спадчына». Тэхналогіі і традыцыі выпякання хатняга хлеба (вёскі Жораўка і Кузьмічы, Любанскі раён, Мінская вобласць).
**10.25** «Беларуская кухня». Трусяціна з сухафруктамі.
**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.20** «Бітва за Маскву». Фільм другі «Тайфун» [СТ].
**14.20** «Навукаманія».
**15.05** «Я нясу вам дар». Канцэрт да 80-годдзя Уладзіміра Мулявіна.
**16.35** «Жандар на прагулцы». Мастацкі фільм.
**18.15** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака». Аляксандр Шаппо [СТ].
**18.40** «Каліна чырвоная». Мастацкі фільм [СТ].
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — дырэктар падрыхтоўкі праграм на замежных мовах радыё «Беларусь» Дзмітрый Занеўскі.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм [СТ].
**22.25** Канцэрт «Планета класікі».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** Премьера. «Вера Глаголева. Несломанный свет».
**11.10** «Видели видео?».
**13.30** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**17.55** «Лев Лещенко. Концерт в день рождения».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** Премьера. «Сегодня вечером».
**22.45** Т/с **«ЧТОБЫ УВИДЕТЬ РАДУГУ, НУЖНО ПЕРЕЖИТЬ ДОЖДЬ».**

## СТВ

**7.00** «Тайны Беларуси».
**8.45** «Анфас».
**9.05** «Самая полезная программа».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00** Документальный проект.
**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«МЕЧ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.30** «СТВ-спорт».
**20.40** Документальный спецпроект.
**22.20** «Территория заблуждений».
**0.55** «День русских героев». Документальный спецпроект.

## Мир

**5.00, 3.55** Мультфильмы.
**7.10** «Игра в слова». с Антоном Комоловым.
**8.10** «Всё, как у людей».
**8.25** «Наше кино. История большой любви». К юбилею Э. Володарского.
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10, 16.15, 19.15** Т/с **«ВЫСШИЙ ПИЛОТАЖ».**
**16.00, 19.00** Новости.
**2.15** Х/ф **«ОХРАННИК ДЛЯ ДОЧЕРИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 7.10** Сегодня. Главное.
**6.10** За гранью.
**6.35** Беларусы.
**7.25** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Сломать стереотипы.
**10.40** Главная дорога.
**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.00** Квартирный вопрос.
**12.55** Истории спасения.
**13.25** «Поедем, поедим!».
**14.00** Х/ф **«ВОЛЧЬЕ СОЛНЦЕ».**
**16.20** «Секрет на миллион». Юлия Савичева.
**18.10** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.50** Ты не поверишь!
**20.50** Т/с **«ВЫШИБАЛА».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**8.20** «Специальный репортаж».
**9.10** Х/ф **«ПЕРЕВЕРНИ СТРАНИЦУ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** «Тайны Беларуси».
**12.20** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.20** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НА ДВА ПОЛЮСА».**
**16.15** Х/ф **«АНЮТИНО СЧАСТЬЕ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПАМЯТИ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 17.35** Что скрывает ложь. **6.45** Любимцы Америки. **8.40** Управление гневом. **10.30** Лучше не бывает. **13.05** Холодная гора. **15.55** Забытое. **19.10** Девушка из Джерси. **21.05** Век Адалин. **23.05** Простая просьба. **1.05** Бёрдмэн. **3.15** Охотники за привидениями.

### TV1000 ACTION

**5.10** Геракл: Начало легенды. **7.00** Рэмбо: Первая кровь. **8.35** Закатать в асфальт. **11.25, 3.35** Центурион. **13.10** Орёл Девятого легиона. **15.10** Викинги. **16.55** Особо тяжкие преступления. **19.00** Неудержимые. **20.40** Неудержимые 2. **22.25** Неудержимые 3. **0.30** Неудержимый. **2.05** Защитник.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Завтрак у папы. **7.00** Карлик Нос. **8.25** Гудбай, Америка. **10.10** Гороскоп на удачу. **12.00** Девушки бывают разные. **13.35** Как я стал русским. **15.15** Хороший мальчик. **17.05** Призрак. **19.05** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **21.00** 30 свиданий. **22.40** Лови момент. **0.00** Географ глобус пропил. **2.15** Ярды. **3.55** Хоттабыч.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.15** «Рисуем сказки». **9.30** Х/ф **«ЧЕРНОЕ МОРЕ». 11.45, 0.30** Х/ф **«ЗОЛОТО ФЛИННА». 13.45** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЙ ГОРОД Z». 16.30** Х/ф **«СУМЕРКИ. САГА. ЗАТМЕНИЕ». 19.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **20.30** «Последний герой. Племя новичков». **22.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР». 2.00, 2.45, 3.30, 4.15, 5.00** Т/с **«ВИКИНГИ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 2.40** Х/ф **«ДЮПЛЕКС». 4.10** Х/ф **«ГАМБИТ». 5.45** Х/ф **«ВЕЛИКОЛЕПНАЯ». 7.20** Х/ф **«МУВИ 43». 9.05** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ». 11.00** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 12.35** Х/ф **«ТАКСИ 5». 14.30** Х/ф **«СУПЕРСТАР». 16.10** Х/ф **«ВИРУС ЛЮБВИ». 17.50** Х/ф **«БАНДИТКИ». 19.30** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 21.40** Х/ф **«ЭДДИ». 23.35** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.00, 2.00, 3.00, 4.00, 5.00** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 5.55, 7.00, 8.05, 9.05, 10.10, 11.15, 12.20, 13.20** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ». 14.25, 15.20, 16.20, 17.20, 18.15, 19.15, 20.15, 21.15, 22.10, 23.10** Т/с **«МЁРТВ НА 99%».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 18.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **11.00, 1.40** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **13.40** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **14.45** Т/с **«ФИЛАТОВ». 16.45, 21.05, 2.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **18.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ВОЗВРАЩЕНИЕ ДОМОЙ». 22.30** Приключения «ПРОГУЛКА». **0.50** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **4.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.50** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Завтрак чемпионов. **7.30** Теннис. WTA. Мельбурн. Полуфиналы. **11.30** Вот это спорт! **11.50** Хоккей. Чемпионат Беларуси. **14.20** Баскетбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Женщины. Польша – Беларусь. **16.10** Греко-римская борьба. Чемпионат Беларуси. **17.50** Спорт-центр. **19.50** Фактор силы. **20.20, 22.50** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **22.20** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **0.50** На пути к Токио.

### EUROSPORT

**2.00, 13.25** Горные лыжи. Кубок мира. Гармиш-Партенкирхен. Мужчины. **3.30, 8.00** Теннис. ATP 250. Мельбурн. 1/2 финала. **5.00, 9.30** Снукер. Shoot-Out. Первый раунд. **7.00** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». Третий этап. **10.30, 11.55** Санный спорт. Кубок мира. Санкт-Мориц. Двойки. **11.35** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. Квалификация. **12.55** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Клигенталь. Гонка преследования. 10 км. **15.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Ульрисехамн. Спринт. Свободный стиль. **16.20** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. **18.15** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». Четвёртый этап. **19.15** Теннис. ATP 250. Мельбурн. Финал. **20.45, 21.45** Снукер. Shoot-Out. Второй раунд.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.15, 8.45, 12.45, 15.25, 17.35, 22.40, 0.25, 3.00** Итоговые новости. **6.30, 14.00, 17.55, 1.00, 1.30** Испытание на прочность. **6.55** Комплектация. **7.25, 14.50, 2.00, 2.30** Тест на «Драйве». **7.55, 18.45** Трасса А2. **9.05, 3.20** Сити тестер. **9.40, 13.05, 13.25** Дома на колесах. **10.00, 10.55** Тест в большом городе. **10.35** Школа внедорожного вождения. **11.30, 11.45, 13.40, 14.35** Тайный покупатель. **12.10, 22.55, 3.50** Легенды автопрома. **12.30, 23.15, 4.05** Проверка на дороге. **15.40, 18.25, 0.45, 5.10, 5.20** Аварийная ситуация. **16.00** Поездка выходного дня. **16.30** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **17.00** Автомобильные музеи мира. **19.35** Вторичка. **19.50** Электродрайв. **20.10, 23.35, 4.20** Стальные парни. **20.55** Самообслуживание. **21.15, 21.45, 5.35** Гаражная команда. **22.10** Кругосветка по бездорожью.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 1.20, 2.05, 2.55, 3.40, 4.25, 5.15** Австралийские золотоискатели. **7.35, 8.25, 18.55** Австралийские охотники на лобстеров. **9.15, 9.40, 10.00, 10.25** Гараж: Последний приют. **10.50, 11.40** Ржавые тачки на прокачку. **12.30, 13.20, 14.10, 14.55** Переделка старья. **15.45, 16.30, 17.20** Драндулеты на продажу. **18.05** Строительство гигантов. **19.45, 23.00** Дикая Монтана. **20.30** Речные чудовища. **21.20** Чудовищный карп. **22.10** Невероятная рыбалка. **23.45, 0.35** Охотники на морских ежей.

### HISTORY

**6.00** Музейные тайны. **6.45, 7.30, 8.20** Тайны музеев. **9.05, 10.00** Древние суперстроения. **11.00** Мегаполис: секреты древнего мира. **11.55, 12.45, 13.35, 14.25** Расшифрованные сокровища. **15.15** По следам вождя гуннов Аттилы. **16.00, 16.55, 1.05, 1.55** Удивительное семейство псовых. **17.45, 18.35** Загадки Египта. **19.25, 20.10** Военные заводы. **21.00** Ганнибал: новые данные. **21.50** Расшифровка тайн. **22.35** Побег от Гитлера. **23.25, 0.15** Карты убийства. **2.50, 3.35, 4.25** Запретная история. **5.15** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00, 2.55** Уличный ветеринар. **6.25, 7.10, 7.55, 8.40, 9.30, 10.15, 11.00, 11.50, 12.35, 13.20, 14.05, 14.50, 19.00, 19.45, 20.30** Ветеринар из Йоркшира. **15.35, 16.25, 17.15, 18.10, 1.15, 5.10** Выживание в дикой природе. **21.15** Суровая Австралия. **22.05, 22.55** Коварная Земля. **23.40** Невероятные встречи с животными. **0.30** Мутации погоды. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.25** Лучшие друзья собаки. **3.50, 4.15, 4.45** Постыдные проблемы питомцев.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.20** Фабрика еды. **6.45, 7.35** Инстинкт выживания, Китай. **8.20, 8.45** Сделать за один день. **9.10, 10.00, 2.00** Авто – SOS. **10.50, 11.45** Самые лучшие суперкары. **12.35, 13.25** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **14.15, 15.05** Инстинкт выживания. **15.55, 16.45** Экстремальный экспресс. **17.35, 18.25** Исследователь 2. **19.15** Китай с высоты птичьего полета 2. **20.05, 21.50** Три вождя. **21.00, 22.45** Северная Корея. **23.40** Суперсооружения Третьего рейха: к бою готовы. **0.30, 1.15** Необычные промыслы. **2.45, 3.30** Эвакуация Земли. **4.15, 5.05** Враждебная планета.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.10, 23.10, 0.10, 1.15, 2.10, 3.10, 4.10, 5.05** Фотоохота с Евгением Полонским. **6.30, 8.35, 10.35, 12.35, 14.35, 16.35, 18.35, 20.35, 22.40, 0.45, 2.40, 4.35** Вкусные рецепты охотника. **7.30, 9.35, 11.35, 13.35, 15.35, 17.35, 19.35, 21.40, 23.40, 1.45, 3.40, 5.35** Вкусные рецепты рыболова. **8.00** На рыбалку с охотой. **13.05** Рыболовная Россия.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 22.10, 2.20** Преданья старины глубокой. **6.35, 14.40, 18.45, 22.40, 2.50** Чай вдвоем. **6.45, 11.00, 19.00, 23.00, 3.05** Сладкая жизнь. **7.00, 11.15, 15.20, 23.15, 3.20** Тихая моя родина. **7.35, 15.50, 19.50, 23.50, 3.50** Агротуризм. **8.00, 15.00** Огород круглый год. **8.20, 16.40, 20.35, 0.35, 4.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.55, 16.55, 20.50, 0.55, 4.50** Кухня народов СССР. **8.50, 13.10, 17.10, 21.05, 1.10, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20** Траовед. **9.40, 13.40, 17.40, 1.35, 5.35** 10 самых больших ошибок. **10.40, 12.40** Огород круглый год. **11.50** Ремонт для начинающих. **12.20, 16.25, 20.20, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **18.10** Битва огородов. **19.20** Секреты стиля. **21.40** Хозяин. **2.05** Паштет.

## Беларусь 1

**6.30** Х/ф **«РОДНОЕ СЕРДЦЕ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.45** Маршрут построен.

**11.20, 12.35** Х/ф **«ДОЧКИ-МАТЕРИ».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** «Повод есть».

**16.45, 19.10** Т/с **«ОДНОКЛАССНИКИ СМЕРТИ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«БЫВШАЯ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**10.20** Фильм-катастрофа «Армагеддон».

**12.50** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**13.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.25** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.10** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** Х/ф **«ЛЕДИ В ФУРГОНЕ «.**

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«РИКИ И ФЛЭШ».**

**23.05** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 12.55** Навіны культуры.

**8.20** «Опять двойка». Мультфільм.

**8.40** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Лешч, запечаны ў гліне.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Уладзімір Станкевіч (бондарства).

**12.15** «Свaімі словамі». Тэлевіктарына.

**13.15** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча «Маміна пласцінка».

**14.05** «Жандар на прагулцы». Мастацкі фільм.

**15.45** А.Барадзін. «Князь Ігар». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**18.20** «Адзінокім даецца інтэрнат». Мастацкі фільм [СТ].

**19.50** «Кадры жыцця».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Бітва за Маскву». Фільм другі «Тайфун» [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**10.50** Т/с **«ЛИЧНЫЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

**12.40** Т/с **«ЧТОБЫ УВИДЕТЬ РАДУГУ, НУЖНО ПЕРЕЖИТЬ ДОЖДЬ».**

**16.20** Премьера. «Я почти знаменит».

**18.15** Концерт Игоря Матвиенко.

**20.00** Контуры.

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.30** «Клуб Весёлых и Находчивых». Кубок чемпионов.

**0.20** «Михаил Жванецкий. «Вам помочь или не мешать?».

## СТВ

**6.45** «Тайны Беларуси».

**8.20** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.35, 13.40, 16.40** Т/с **«АВТОШКОЛА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.20** Документальный спецпроект.

**22.55** «Засекреченные списки».

**1.25** «День русских героев». Документальный спецпроект.

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**6.25** «Наше кино. История большой любви». К 100-летию В. Стржельчика.

**6.50** Х/ф **«СОЛОМЕННАЯ ШЛЯПКА».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ФОРС-МАЖОР».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**22.45, 1.00** Т/с **«ВЫСШИЙ ПИЛОТАЖ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Элементариум.

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.05** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.00** Х/ф **«ВОЛЧЬЕ СОЛНЦЕ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.25** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**21.55** «Основано на реальных событиях».

## Беларусь РТР

**7.05** Т/с **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**

**11.00** Х/ф **«РАЗОРВАННЫЕ НИТИ».**

**14.30** Х/ф **«БЕЛОЕ ПЛАТЬЕ».**

**16.30** Х/ф **«НЕЗНАКОМКА В ЗЕРКАЛЕ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.35** «Тайны Беларуси».

**22.25** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.05** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.10, 15.10** Охотники за привидениями 2. **7.15** Век Адалин. **9.30** Девушка из Джерси. **11.20** Чужой билет. **13.15** Охотники за привидениями. **17.05** Затура: Космическое приключение. **19.00** Зелёный Шершень. **21.05** Призрачный патруль. **22.50** Ультрафиолет. **0.20** Как отделаться от парня за 10 дней. **2.15** Сердцеед. **3.55** Двое: Я и моя тень.

### TV1000 ACTION

**5.10** Гнев. **7.30** Имитатор. **9.35** Неудержимый. **11.10** Неудержимые. **13.00** Неудержимые 2. **14.40** Неудержимые 3. **16.50** Плохие парни. **19.00** Плохие парни 2. **21.40** Два ствола. **23.30** Антиганг. **1.10** 13-й район. **3.05** 13-й Район: Ультиматум.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **7.35** Девушки бывают разные. **9.35** 30 свиданий. **11.20** Лови момент. **12.45** Побег. **15.00, 3.25** Географ глобус пропил. **17.15** Пиковая дама: Черный обряд. **19.00** Пиковая дама: Зазеркалье. **20.30** Рассвет. **22.10** Проигранное место. **0.00** Люби их всех. **1.45** Бабло.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45** «Новый день». **10.15** Х/ф **«МАРАБУНТА». 12.15** Х/ф **«СВОРА». 14.00** Х/ф **«30 ДНЕЙ НОЧИ». 16.30** Х/ф **«ВАН ХЕЛЬСИНГ». 19.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ЭВОЛЮЦИЯ». 21.00** Х/ф **«СУМЕРКИ. САГА. ЗАТМЕНИЕ». 23.30** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **1.00** «Последний герой. Племя новичков». **2.15** «Не ври мне». **3.00, 3.45** «Городские легенды». **4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ». 0.00, 1.00** Т/с **«В СТОРОНУ ОТ ВОЙНЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ЗАПРЕТНАЯ ЛЮБОВЬ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20, 19.30** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ». 3.50** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ». 5.35** Х/ф **«ДЮПЛЕКС». 7.15** Х/ф **«РАЗВОД ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 8.45** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ РЫБАЛКИ». 10.40** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ». 12.30** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ ДЕВУШКИ». 14.10** Х/ф **«ФАНФАН – ТЮЛЬПАН». 16.00** Х/ф **«КРУТОЙ И ЦЫПОЧКИ». 17.50** Х/ф **«ОСТИН ПАУЭРС: ЧЕЛОВЕК-ЗАГАДКА МЕЖДУНАРОДНОГО МАСШТАБА». 21.15** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 23.20** Х/ф **«ВЕЛИКОЛЕПНАЯ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.10, 2.05, 3.05, 3.55, 4.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 5.40, 6.40, 7.45, 8.45, 9.45, 10.45, 11.45, 12.45, 13.55, 14.55, 16.00, 17.05, 18.05, 19.10, 20.15, 21.20** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 23.05** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 17.00** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **11.00** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ВОЗВРАЩЕНИЕ ДОМОЙ». 15.05** Т/с **«ФИЛАТОВ». 17.35** Х/ф **«ВНУТРИ СЕБЯ». 19.30** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **21.05, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.30** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **23.35** Скетч-шоу «ЗАЛ ОЖИДАНИЯ». **0.25** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.50** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Теннис. WTA. Мельбурн. **9.20** Баскетбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Женщины. Польша – Беларусь. **11.10** Завтрак чемпионов. **11.40** Греко-римская борьба. Чемпионат Беларуси. **13.30** Большой спорт. **14.15** Пит-стоп. **14.50** Футбол. Чемпионат Англии. **16.50** Спорт-центр. **19.20, 22.05** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели. **23.55** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск – Зенит (Санкт-Петербург).

### EUROSPORT

**2.05** Горные лыжи. Кубок мира. Гармиш-Партенкирхен. Мужчины. **3.30, 8.00, 19.20** Теннис. ATP 250. Мельбурн. Финал. **5.00, 9.30** Снукер. Shoot-Out. Второй раунд. **7.00** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». Четвёртый этап. **10.30, 11.20** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. **10.50, 13.20** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Клигенталь. Гонка преследования. 10 км. **12.30, 15.45, 16.20** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. **14.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Ульрисехамн. Спринт. Свободный стиль. **14.35** Лыжные гонки. Кубок мира. Ульрисехамн. Командный спринт. **18.15** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». Пятый этап. **20.45** Снукер. Shoot-Out. Третий раунд. **21.45** Снукер. Shoot-Out. Четвёртый раунд.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.15, 14.20, 17.45, 0.30, 1.25** Испытание на прочность. **6.45, 7.30, 11.15** Комплектация. **7.15, 11.00, 13.45, 17.25, 19.05, 23.25, 1.05, 3.40** Итоговые новости. **8.00, 15.15, 1.50, 2.20** Тест на «Драйве». **8.35, 9.20** Вечер с Пикуленко. **10.05** Тест в большом городе. **10.40, 14.00** Тайный покупатель. **11.50** Все включено. **12.00, 14.55** Автолайф. **12.20, 19.30, 22.50** Вторичка. **12.40, 19.45, 23.10** Электродрайв. **12.55, 20.05, 23.40, 4.25** Стальные парни. **15.45, 20.55** Самообслуживание. **16.00, 16.30** Гаражная команда. **16.55, 22.20** Кругосветка по бездорожью. **18.15** Трасса А2. **21.15, 5.25** Поездка выходного дня. **21.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **2.55** Сити тестер. **3.25** Легенды автопрома. **4.00** Наезд! **4.05** Проверка на дороге. **5.10** Аварийная ситуация.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 21.20** Дикая Монтана. **10.20, 22.55** Строительство гигантов. **11.10, 22.05** Австралийские охотники на лобстеров. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.50** Австралийские золотоискатели. **20.30, 20.55** Нефритовая лихорадка. **23.45, 0.25** Лесные люди. **1.10, 2.00, 2.45, 3.35, 4.20, 5.05** Охотники на морских ежей.

### HISTORY

**6.20, 0.30** Музейные тайны. **7.00, 7.50** Тайны музеев. **8.35, 9.35, 10.30** Мегаполис: секреты древнего мира. **11.25, 12.20** Удивительное семейство псовых. **13.10, 13.55, 1.15, 2.00** Расшифровка тайн. **14.40, 15.30, 16.20** Расшифрованные сокровища. **17.00, 18.15** Кельты: кровью и железом. **19.15** Ганнибал: новые данные. **20.05** Настоящая игра престолов. **21.00** Разгадка тайны пирамид. **21.50** Загадки Египта. **22.40** Наша Мировая война. **23.45** Карты убийства. **2.45, 3.35, 4.25** Запретная история. **5.10** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.10** В поисках Султана. **6.55** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **7.45** Дикий штат Карнатака, Индия. **8.35** Дикий Токио. **9.40, 10.35** Как собаки и кошки захватили мир. **11.30, 12.20, 13.10** Удивительное семейство псовых. **14.00** Раскопки на полюсах. **15.00, 18.30** Расцвет млекопитающих. **15.55, 16.45, 17.40** Огромные звери: последние из великанов. **19.25, 20.20, 21.10, 22.00, 22.55** Речные чудовища. **23.45** Невероятные встречи с животными. **0.35** Мутации погоды. **1.20, 5.10** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.00** Уличный ветеринар. **3.25** Лучшие друзья собаки. **3.50, 4.15, 4.45** Постыдные проблемы питомцев.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.45, 3.30** Авто – SOS. **7.30, 7.55** Фабрика еды. **8.20, 8.45** Сделать за один день. **9.10** Китай с высоты птичьего полета 2. **10.05, 10.55** История еды. **11.45** Начало. **12.35, 13.30** Расследования авиакатастроф. **14.20, 15.10** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **16.00, 16.50** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **17.40, 18.30** Граница. **19.15, 20.10, 21.50** Европа с высоты птичьего полета. **21.00** Европа с высоты птичьего полёта. **22.40** Панорама 360° Объект всемирного наследия. **23.35** Дикие животные Севера. **0.25, 1.10** Грядет шторм. **2.00, 2.45** Осушить океан: глубокое погружение. **4.15, 5.10** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 14.00, 2.10** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 10.30, 14.30, 2.40** Люди дикого севера. **7.20, 11.20, 15.20, 19.00, 3.30** Безграничная рыбалка. **7.45, 11.50, 15.50, 4.00** Зимняя рыбалка в Приволжье. **8.05, 12.05, 16.10, 20.05, 23.05, 4.15** Охота и рыбалка в. **8.35, 12.35, 16.40, 18.35, 20.35, 4.45** Охота в Новом Свете. **9.00, 13.00, 5.05** В Индийском океане. **9.30, 13.30, 17.35, 21.35, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **17.05** В поисках лосося. **18.05** Рыболовная Россия. **19.30** Один день из жизни. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Россия заповедная. **22.35** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **23.35** Егерский кордон. **0.05** Научи меня рыбачить. **0.40** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **1.10** Давай зарубимся! **1.25** Привет, Малек! **1.45** Охота в Приволжье.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 22.05** Преданья старины глубокой. **6.35, 14.45, 18.40, 22.35, 2.50** Чай вдвоем. **6.45, 11.05, 19.00, 22.55, 3.05** Сладкая жизнь. **7.00, 11.20, 23.15** Тихая моя родина. **7.35, 11.50, 15.50, 19.45, 23.45, 3.55** Агротуризм. **8.00, 12.25, 16.20, 20.15, 0.15, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 16.35, 20.30, 0.35, 4.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.55, 20.45, 0.50, 4.50** Кухня народов СССР. **8.50, 13.10, 17.10, 21.05, 1.10, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20** Травовед. **9.40, 13.40, 1.35** 10 самых больших ошибок. **10.45, 16.50** Огород круглый год. **12.40, 15.00** Огород круглый год. **14.10, 18.10, 2.20** Битва огородов. **15.20, 19.15, 3.25** Секреты стиля. **17.40, 21.35, 5.35** Хозяин. **2.05** Паштет.

# Чым жыла ў пачатку 20 стагоддзя сям'я Мамаёў з Трапалава

ВІЛЕЙКА
СМАРГОНЬ

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №4*

**Завяршаем расказ пра гісторыю сям'і Івана Мамая з вёскі Трапалава, што на Вілейшчыне.**

### Надышоў 1941 год

Пачалі прывыкаць да новай улады, але наступіў чэрвень 1941 года. Ад пачатку вайны з Трапалава і навакольных вёсак амаль што ніхто не патрапіў на фронт. І ўжо 26 чэрвеня ў Гануце, змяніўшы савецкую ўладу, акупанты пачалі ўводзіць нямецкі парадак. І вяскоўцы, каб выжыць, вымушаныя былі яму падпарадкоўвацца. Першы год пад акупацыяй прайшоў больш-менш спакойна. Вёска з сямі падворкаў не вельмі прыцягвала немцаў.

Неспакойнае жыццё для Мамаёў пачалося ад 1942. Вясной Іван з братам Аляксандрам, праязджаючы на кані па лесе, заўважылі, што на хвойцы вісіць парашут. На стропах гайдаўся мех. Мужчыны спілавалі дрэва, парашут сабралі і схавалі пад кучай галля. Пасля ўзвалілі груз на воз і паехалі ў вёску. Знаходку пакінулі ў сваёй лазні. Увечары, распакаваўшы мех, зразумелі, што груз, хутчэй за ўсё, належыць савецкім дыверсантам.

Сухары, соль, махорку, крупы можна было смела браць. А што рабіць з рацыяй? Схаваць – немцы знойдуць, расстраляюць. Выкінуць у Вілію? Даведаюцца савецкія дыверсанты і таксама расстраляюць. Вырашылі адвезці мяшок назад у лес. Каб знаходку было лягчэй даставіць, палову правіянту пакінулі сабе.

Не паспелі патушыць лучыну і ўзяць груз у рукі, як у лазню ўварваліся ўзброеныя людзі ў зялёнай вопратцы. Яны па-руску спыталі, ці развязвалі браты мяшок. Пачуўшы, што не паспелі, ваенныя загадалі маўчаць і папярэдзілі, што праз нейкі час вернуцца. Пасля сышлі з лазні разам з мехам.

Неяк надвячоркам у дзверы пагрукалі. Калі зайшлі ў хату, Іван сярод начных гасцей пазнаў у адным мужчыну з лазні. Госці без нахабнасці папрасілі чаго-небудзь перакусіць ды апаласнуцца ў лазні. Гаспадар дазволіў. За вячэрай высветлілася, што госці – савецкія разведчыкі-дыверсанты. Мяшок з грузам належаў ім. Толькі атрымалася так, што браты раней за гаспадароў напаткалі знаходку. Дыверсанты заўважылі іх і прасачылі, куды павезлі мех. Пасля застолля і дамовы пра супрацоўніцтва госці сышлі.

### Як загінула сям'я Мамаёў

Пасля Аляксандр пайшоў у партызанскі атрад імя Варашылава, Іван стаў сувязным гэтага атрада, а іх дом падпольным пунктам. Праз Івана перадавалі дадзеныя іншыя сувязныя, у тым ліку і Алеся Мамай, і яе нявестка Валянціна. Часам начныя госці прыходзілі да Івана, каб памыцца ў лазні і пакарыстацца рацыяй, якая захоўвалася пад падлогай. Рацыя і загубіла сям'ю Мамаёў. Выратавалася толькі родная Іванава сястра.

А прычынай гібелі сям'і стаў данос нейкага здрадніка і знойдзеныя немцамі батарэйкі ад рацыі, выкінутыя партызанамі ў лазневую печку. 29 лістапада 1942 года на Трапалава наляцелі немцы. Іван быў па справах у вёсцы Мамаі. А ўсе астатнія былі дома. Тады і заўважылі на пад'ездзе да вёскі немцаў на матацыклах і ўласаўцаў на падводах. Вяскоўцы пачалі разбягацца.

Мамаі загадалі жанчынам з дзецьмі і дзеду Кастусю ўцякаць з хаты праз падворак на Вілію. Каб затрымаць немцаў, Аляксандр схаваўся на падворку. А сястра Таццяна са стрыечным братам Уладзімірам рушылі да ставаў. Немцы заўважылі іх і пачалі даганяць. Але тыя ўцяклі, схаваўшыся ў трыснягу.

На наступны дзень Іван і Таццяна з Уладзімірам вярнуліся ў вёску. Ім стала вядома, што Аляксандр сустрэў немцаў аўтаматнымі чэргамі. Але нямецкі снайпер смяротна параніў Аляксандра, а карнік з чырвона-сіня-белай павязкай дастрэліў яго.

У лазні фашысты знайшлі Іванавых родных. Вывелі адтуль Зосю і Юлю, жонак Івана і Аляксандра. А дзеда Канстанціна з чатырма дзяўчынкамі-ўнучкамі спалілі разам з лазняй на вачах у матуль. На папялішчы Іван знайшоў толькі чырвоныя пацеркі дачкі.

Пасля рускамоўныя карнікі ў нямецкай форме з чырвона-сіне-белымі шаўронамі арыштавалі сястру Уладзіміра, Ніну. І разам з Зосяй пагналі быццам бы на допыты ў Вілейскую турму. Але, як высветлілася, да турмы іх не давялі. Вясной 1943 на беразе Віліі знайшлі астанкі жанчын.



Іван Мамай.

Пасля трагедыі Іван пабудаваў зямлянку ў лесе і жыў там. Пераправіў партызан праз Вілію, перадаваў ім звесткі сувязных

У ліпені 1944 года, калі на Вілейшчыне і Смаргоншчыне ўжо не было немцаў, Іван спачатку падаўся да родных у Красніцу, пасля – у Трапалава да стрыечнага брата Уладзіміра. Мужчыны рушылі ў Вілейскі ваенкамат. 17 ліпеня 1944 года іх накіравалі ў 132 стралковы полк Другога Беларускага фронту стралкамі. Штурмавалі Кёнігсберг, фарсіравалі Одэр. Іван быў двойчы паранены, меў медаль «За перамогу над Германіяй», а Аляксандр узнагароджаны ордэнам «Вялікай Айчыннай вайны 1-й ступені», медаллю «За адвагу». З вайны Іван вярнуўся восенню 1945 года, а Уладзімір, з ордэнам і без рукі, улетку.

### З'явілася новая сям'я

Іван пасяліўся ў сваёй зямлянцы, працаваць пайшоў на ставы. Праз год на месцы спаленай фашыстамі бацькоўскай хаты паставіў зруб, распрацаваў зямлю.

Нечакана жыццё змянілася. Неяк аднойчы Іван завітаў да каваля Анопа ў Алянец серп падладзіць. Кузня месцілася пры дарозе Смаргонь-Маладзечна. У кузні Іван сустрэў калісьці заможную сялянку **Ніну Мейсак (Гісіч)** з Алянецкіх хутароў. Мужа яе немцы закатавалі за сувязь з партызанамі. Жанчына гадавала траіх дзяцей адна. Прыйшла ў кузню прасіць дапамогі па гаспадарцы. Каваль параіў Івана. Не паспеў Іван з гаспадыняй ступіць на падворак, як насустрач з крыкам «татачка!» кінуўся Нінін сынок **Ванька**. Так і застаўся Мамай на гэтым падворку. Аддаў свой недабудаваны дом у Трапалаве сям'і сястры. Паспрабаваў адрадзіць Мейсакову гаспадарку, але 1949 год унёс свае змены. Німіна 17-гектарная зямля з пабудовамі і інвентаром адышла пад калгас.

Іван пайшоў працаваць у Залессе на чыгунку, дзе адпрацаваў да пенсіі. Да траіх Німіных дзяцей дадаліся яшчэ трое сумесных. У 1957 годзе Ніна памерла ад туберкулёзу. Іван сам выгадаваў шасцёра добрых дзяцей. Памёр у 1996.

Нашчадкі Івана Канстанцінавіча і Ніны Іванаўны шануюць памяць сваіх родных. Калі малодшая ўнучка Кацярына хадзіла ў школу, напісала сачыненне пра трагічную гісторыю сваёй сям'і.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**краязнаўца, Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**29 СТУДЗЕНЯ**

**1860.** Нарадзіўся **Антон Чэхаў**, рускі пісьменнік і драматург (пам. 2.7.1904).

**1864.** У Вільні арыштаваны **Кастусь Каліноўскі**.

**30 СТУДЗЕНЯ**

**1921.** Нарадзіўся **Іван Шамякін**, народны пісьменнік Беларусі (пам. 14.11.2004).

**1945.** Савецкай падводнай лодкай патоплены германскі пасажырскі лайнер «Вільгельм Густлаф», загінула больш за 9300 чалавек. Найбольшая ў гісторыі страта чалавечых жыццяў на моры з адным караблём.

**31 СТУДЗЕНЯ**

**1929.** Нарадзіўся **Анатоль Грыцкевіч**, беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар. Акадэмік Міжнароднай АН Еўразіі. Даследчык гісторыі Беларусі перыяду феадалізму.

**1 ЛЮТАГА**

**1863.** Выйшаў зварот Літоўскага правінцыяльнага камітэта на чале з К. Каліноўскім да насельніцтва Беларусі і Літвы з заклікам падняцца на ўзброеную барацьбу.

**1913.** Нарадзіўся **Сяргей Прытыцкі**, беларускі палітычны дзеяч. У 1954 – 1960 – першы сакратар Маладзечанскага абкама КПБ.



**1919.** Пачаліся рэгулярныя заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі

**2 ЛЮТАГА**

**1958.** У ЗША нарадзіўся **Данчык**, беларускі спявак і журналіст.

**3 ЛЮТАГА**

**1919.** На Усебеларускім з'ездзе саветаў была прынятая першая Канстытуцыя БССР.

**4 ЛЮТАГА**

**1808.** Нарадзіўся **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**, беларускі празаік, паэт, драматург, тэатральны крытык. Заснавальнік нацыянальнай драматургіі, тэатра, першы класік новай беларускай літаратуры. Памёр 29 снежня 1884, Люцынка, Мінскі павет, цяпер Валожынскі раён.

**1933.** У Вільні скончыўся суд над Галоўнай управай Таварыства беларускай школы. Абвінавачанне ў падрыхтоўцы «камуністычнай змовы» не было пацверджанае.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**



Вадзім Гурман на плошчы 9 жніўня.

# Апошнія паказанні і разгляд доказаў. Маладзечанскі суд працягвае разбор па справе Гурмана

**Суд Маладзечанскага раёна працягвае разгляд крымінальнай справы за 9 жніўня ў дачыненні да Вадзіма Гурмана. Пасяджэнні прайшлі 21 і 27 студзеня.**

## Відэа міліцыянераў за 9 жніўня

21 студзеня ў судзе дэманстравалі відэазапісы з нагруднай камеры міліцыянера **Захара Закамскага** і аператыўную здымку **Яраслава Туровіча**.

Здымка Закамскага пачынаецца з падыходу міліцыянераў да натоўпу на плошчы. У кадр трапляюць **Вадзім Гурман** і **Мікіта Крыўцоў**, якога 22 жніўня знайшлі павешаным у лесапаласе ў Мінску.

На відэа людзі скандавалі «Жыве Беларусь!», «Міліцыя з народам!», а пасля – «Ганьба!». Нагрудная камера зафіксавала адзін з выхадаў Гурмана, калі той крычаў, ці будуць супрацоўнікі збіваць жанчын. На відэа бачна, што натоўп працягвае скандаваць розныя лозунгі, спявае «Перамен» Віктара Цоя. Адзін з супрацоўнікаў па-за кадрам кажа:

– Без затрыманняў сёння не абыдзецца.

Пасля чуваць яшчэ адна фраза кагосьці з супрацоўнікаў:

– Лічу так, калі будуць набліжацца, то дастанем палкі, папярэджваем. Будзем адыходзіць у бок будынкаў, да ўазікаў. Сяброў не кідаем!

На плошчы становіцца цёмна – ліхтары не гараць, таму людзі ўключаюць ліхтарыкі на сваіх мабільных тэлефонах. У кадр зноў трапляе Гурман, які стаіць з кампаніяй сяброў у некалькіх метрах ад натоўпу. Людзі працягваюць скандаваць лозунгі: «Мы адзін народ!», «Жыве Беларусь!», «Мы разам, нас многа, за намі перамога!».

Пасля на відэа чуецца фраза: «Сілай не браць, я дам каманду». Здымка з нагруднай камеры заканчваецца.

Аператыўная здымка, якую вёў Туровіч, пачынаецца ад помніка Леніну. Туровіч праходзіць каля жанчыны, якая кажа: «Няўжо вы зробіце гэта? Не сорамна вам?». Туровіч падыходзіць да шарэнгі міліцыянераў, за ёй ходзіць начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Руслан Манькоўскі**.

Гурман трапляе ў кадр Туровіча – гэта яго першы выхад паміж натоўпам і шарэнгай супрацоўнікаў Маладзечанскага РАУС. У камеру трапляюць **Мікіта Крыўцоў** і **Аляксей Кудзін**. У асноўным Туровіч здымаў твары людзей, якія былі на плошчы ў той вечар. Чуваць абразы: «Ты д*****б, ці што?», «Фашысты е*****».

Гурман яшчэ некалькі разоў трапіць у кадр да таго, як на плошчы стане зусім цёмна. Туровіч працягвае здымаць, калі на плошчы ўжо цёмна. Да яго падыходзяць некалькі мужчын, якія спрабуюць з ім размаўляць. Туровіч пытаецца ў іх, ці пілі яны. Далей гучаць абразы: «Мазгі табе адаб'ём», «Ненавіджу Лукашэнку, гэта фашыст». Да шарэнгі міліцыянераў падыходзяць людзі і пытаюцца, за каго тыя галасавалі на выбарах.

## Паказанні апошніх сведкі і пацярпелага

27 студзеня паказанні ў судзе далі сведка **Андрэй Цар** і пацярпелы **Вадзім Лазар**, якія па стану здароўя знаходзіліся на бальнічных.

9 жніўня Вадзім Лазар знаходзіўся ў складзе аўтапатруля. Увечары начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Руслан Манькоўскі загадаў аўтапатрулю прыехаць на плошчу. Там Лазар пабачыў натоўп і міліцыянераў, якія станавіліся ў шарэнгу насупраць людзей. На плошчы міліцыянер пабачыў Гурмана, які хадзіў паміж натоўпам і шарэнгай міліцыі. Лазар чуў ад абвінавачанага пагрозы: «Мы вас павесім. Выбірайце дрэвы».

– Калі б натоўп пайшоў, то было б складана, – адказаў Лазар на пытанне, як ён успрыняў пагрозы Гурмана.

Згодна з паказаннямі, якія Лазар даваў падчас папярэдняга следства, міліцыянер баяўся за сваё жыццё і здароўе пасля слоў абвінавачанага. Лазар заявіў позву аб кампенсацыі маральнай шкоды на 700 рублёў. Абгрунтаваў яе так: «Было страшна».

Андрэй Цар знаходзіўся ў аўтапатрулі разам з **Нехвядовічам** і Лазарам. На плошчы стаяў у ланцугу, назіралі за людзьмі, каб тыя не парушалі парадак. Па словах Цара, Гурман выкрыкваў лозунгі і хадзіў перад міліцыянерамі. Цар не чуў ад абвінавачанага пагрозы акрамя фразы «Давай на разы», якую сведка палічыў пагрозай.

Адвакат **Літвіновіч** зачытала папярэднія паказанні Цара і Лазара, яны іх давалі 13 жніўня ў маладзечанскім аддзеле Следчага камітэта. Зачытаныя паказанні адваката акazaліся ідэнтычнымі, нават з такім ж памылкамі друку. У гэтых паказаннях Цара ёсць інфармацыя, што фразу «Давай на разы» казаў чалавек, якога міліцыянер затрымаў 11 жніўня разам з Гурманам.

У адваката было хадайніцтва аб выкліку сведак, якія давалі паказанні на папярэднім следстве – суд адхіліў, таму што адвакат не можа забяспечыць іх прысутнасць.

Пацярпелыя таксама намалявалі планы на карце, дзе яны стаялі ў шарэнзе і дзе знаходзіўся Гурман, калі ён нібыта выказваў пагрозы забойствам супрацоўнікам. Яшчэ да матэрыялаў справы дадалі медыцынскую даведку жанчыны Гурмана Віялеты Гуттэ – яна цяжарная двойняй.

Разбор працягнецца раніцай 29 студзеня.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Маладзечанскага адзінаборцу Кудзіна арыштавалі ў Маскве

**На мінулым тыдні Аляксея Кудзіна затрымалі на кватэры ў сябра ў Маскве, а пасля расійскі суд арыштаваў адзінаборцу на два месяцы. Яго могуць аддаць Беларусі – ён абвінавачваецца па крымінальнай справе за супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў.**



Кудзін падчас сілавога разгону акцыі 10 жніўня.

### Арышт і суд у Расіі

21 студзеня Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці паведаміў, што ў Маскве затрымалі адзінаборцу Аляксея Кудзіна. Расійскі спартыўны журналіст **Аляксандр Люцікаў** расказаў, што Кудзіна ў пяць раніцы затрымаў спецназ ФСБ у кватэры сябра байца **Руслана Абдо**. Кудзіна арыштавалі па запыце беларускага боку.

> 22 студзеня Дамадзеўскі гарадскі суд Маскоўскай вобласці арыштаваў Кудзіна на два месяцы.

Па словах Люцікава, пытанне аб экстрадыцыі адзінаборцы будзе вырашанае да 1 сакавіка.

25 студзеня супрацоўнік Russia Today **Канстанцін Прыдыбайла** паведаміў, што Кудзін прыехаў у Маскву, каб біцца з амапаўцамі падчас расійскіх пратэсных акцый. Гэта стала вядома Прыдыбайлу са слоў жонкі Кудзіна. Жонка Аляксея **Таццяна** паведаміла «Рэгіянальнай газеце», што ўпершыню чуе пра Прыдыбайлу і назвала яго словы пра мужа хлуснёй.

У той жа дзень кіраўнік Упраўлення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі Мінаблвыканкама **Аляксандр Копішаў** заявіў, што затрыманню Кудзіна спрабуюць прыдаць палітычную афарбоўку.

– Насамрэч адбылося затрыманне злачынцы. Злачынцы, які схаваўся ад органаў крымінальнага пераследу і суда з мэтай пазбегнуць ад крымінальнай адказнасці за зробленыя злачынствы, – лічыць Копішаў.

### Кудзін – абвінавачаны па крымінальнай справе

10 жніўня Аляксея Кудзіна затрымалі па дарозе ў бальніцу. Ён ехаў туды пасля збіцця сілавікамі. Па яго словах, адзінаборцу некалькі разоў стрэлілі ў грудзіну, кінулі пад машыну светлашумавую гранату. Падчас затрымання яму сказалі, што ён забіў міліцыянера, што пасля аказалася няпраўдай. Кудзіна даставілі ў ізалятар Маладзечанскага РАУС, а затым этапавалі ў жодзінскі СІЗА. Адзінаборцу прызналі абвінавачаным па крымінальнай справе па супраціўленні супрацоўнікам органаў унутраных спраў.

19 лістапада ў судзе Маладзечанскага раёна назначылі пасяджэнне па крымінальнай справе Кудзіна. Пацярпелымі значыліся двое міліцыянераў **Канстанцін Яндола** і **Андрэй Зорын**. Аднак у судзе ён не з'явіўся. Таму суддзя **Вольга Дубовік** вынесла пастанову аб абвяўленні адзінаборцы ў вышук.

На пачатку снежня Аляксей Кудзін паведамій у сацыяльных сетках, што знаходзіцца ў бяспецы. Ён расказаў у інтэрв'ю, што 10 жніўня адказваў ударамі на ўдары сілавікоў: адправіў у накаўт некалькіх вайскоўцаў, аднаму выбіў зуб.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Маладзечне і Вілейцы прайшлі пратэсныя акцыі

**23 студзеня ў Маладзечне і Вілейцы прайшлі пратэсныя акцыі. Дэманстранты заклікалі ўлады выпусціць палітвязня Ігара Лосіка.**

23 студзеня ў Беларусі прайшлі пратэсныя акцыі. У Маладзечне і Вілейцы пратэстоўцы выходзілі ў ланцугі салідарнасці і на пратэсныя шпацыры. Ля Цэнтральнай плошчы на Брадвеі ў Маладзечне жанчына стаяла з плакатам «Свабоду Ігару Лосіку».

Ігар Лосік быў адміністратарам тэлеграм-канала «РБ галаўнога мозгу». Летам яго затрымалі ў якасці абвінавачанага па справе за масавыя беспарадкі. Лосік трымаў 40-дзённую галадоўку ў ізалятары.

> У Вілейцы пратэстоўцы выходзілі з бел-чырвона-белымі сцягамі і малявалі на снезе сцягі.

«Рэгіянальнай газеце» вядома пра затрыманне як мінімум аднаго мужчыны ў Маладзечне. Ён адмовіўся паведаміць свае пашпартныя дадзеныя супрацоўніку патрульна-паставой службы.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**




Жанчына з плакатам у цэнтры Маладзечна.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем чытачоў і герояў публікацый. Яны складаюць спіс любімых твораў мастацтва і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Таршэр



# Ці сталі вашы рэчы важней, чым вы самі?

**Пра свае любімыя творы мастацтва расказвае юрыст і актывіст з Вілейкі Максім Ціханаў.**

### 1. «Фрэнкі-шоу»

Была такая перадача па расійскім радыё «Сярэбраны дождж» ад 2004 да 2011 года. Мяне з ёй пазнаёміў сябар, калі пачалі з'яўляцца гуказапісы ў інтэрнэце.

Гэта незвычайная перадача. Цягам 40 хвілін дыктар Фрэнкі апавядае пра якога-небудзь вядомага чалавека ад першай асобы, нібыта гэта ён сам. А слухачы павінны адгадаць, хто гэты персанаж. Расказвае пра яго жыццё ў цікавай манеры, з гукавымі і музычнымі эфектамі, ад самага нараджэння героя і да яго смерці. Калі ты слухаеш у навушніках у цёмным пакоі, табе здаецца, нібыта сам жывеш тым жыццём, пра якое расказвае Фрэнкі!

Калі праслухаеш шмат серый, адчуваеш, быццам пражыў шмат жыццяў. Аўтар – **Вадзім Дзямчог**, ён таксама стварыў серыял «Містар Фрыман» і серыю аўдыёспектакляў «Трансляцыя Адтуль». Але большасць яго пазнае як Купітмана з серыяла «Інтэрны».

### 2. Ёхан Хёйзінга, Homo ludens (з лацінскай – «Чалавек гуляючы»)

Гэта навуковы трактат, які апісвае тэорыю і феномен Гульні. Калі казаць простымі словамі, трактат кажа, што ўсё ў жыцці мае прыроду гульні. Увесь свет пранізаны гульнявымі мадэлямі. Калі нараджаецца жывая істота, яна пачынае вучыцца жыць у гэтым свеце, неяк з ім кантактаваць.

Дзіця назірае за дарослымі і пачынае гуляць у свае гульні – выдумляць розныя сітуацыі. Жывёлы ганяюцца адна за адной, гуляюць у бойку і таксама разыгрываюць розныя сітуацыі. Па меры сталення чалавека гульнявыя мадэлі становяцца ўсё больш складанымі. І ў кожнага свая роля. Але калі зразумець сутнасць гульні і пачаць кіраваць ёй, то ролю можна памяняць.

### 3. «Гатака»

Фільм–антыўтопія 1997 года. У фільме людзі навучыліся генерыраваць плод з найлепшым фізічным, інтэлектуальным развіццём, з вялікім імунітэтам і іншымі выдатнымі якасцямі. Ад нараджэння камп'ютар вылічвае дакладную дату смерці чалавека і прычыну, калі смерць будзе негвалтоўная.

З-за розніцы паміж людзьмі пачалася дыскрымінацыя. Ніхто не хоча браць на працу людзей, якія нарадзіліся звычайным спосабам, як у фільме кажуць – ад кахання. Максімальная ступень іх кар'еры – праца прыбіральшчыкам. З'явіліся махінацыі – траўмаваныя «звышлюдзі» прадаюць сваю асобу звычайным людзям.

Карціна запусціла дыскусію пра небяспеку біятэхналогій. «Гатаку» прызналі фільмам, які дакладна паказвае навуковыя факты і тэорыі.

### 4. Оруэл, «1984»

Гэты твор прачытаў на трох мовах – беларускай, рускай і польскай. Напэўна, калі буду больш дасканала ведаць англійскую, прачытаю і ў арыгінале.

Жанр – таксама антыўтопія. Твор пра чалавека, які жыве ў свеце татальнага кантролю грамадства. У краіне захапіла ўладу адна партыя, і яе нязменны лідар – Вялікі брат. За ўсімі людзьмі ўвесь час сочаць, нельга нават падумаць кепска пра партыю ды Вялікага брата. За «злачынства думкі» на чалавека прыязджаюць уначы, і ён знікае цалкам, уся інфармацыя пра яго выдаляецца, пра яго нельга ўзгадваць, бо таксама можаш знікнуць.

Паўсюль камеры назірання, нават праз тэлевізар за табой назіраюць улады. Навіны заўсёды карэктуюцца ў выгаду партыі, нават тыя, якія выпусцілі даўно. Калі трэба адкарэктаваць – усе старыя газеты замяняюць падробленымі.

Гэты твор прымушае задумацца, а ці атрымаецца ў людзей застацца вольнымі? Ці заўсёды будуць шанаваць правы чалавека? Тое, што апісаў калісьці Оруэл, цяпер дзейнічае ў кітайскіх правінцыях Сіньцзян і Тыбет. Там нават існуе бальная сістэма «добранадзейнасці». Калі яна падае, чалавека вязуць у канцэнтрацыйны лагер на сем год. Іх называюць «выхавальнымі» лагерамі, і не кожны адтуль вяртаецца.

### 5. «Матрыца»

Вельмі моцны фільм! У карціне ўсе людзі жывуць у камп'ютарнай сістэме і большасць з іх проста падключаная да сістэмы. Яны бачаць такія сны, якія патрэбныя сістэме. Каб людзі не здагадаліся, што яны проста рабы.

**Яны не гатовыя прыняць рэчаіснасць, і многія настолькі атручаныя і так безнадзейна залежныя ад сістэмы, што будуць біцца за яе.**

У той жа час ёсць меншасць, якая абудзілася і зразумела, што ўвесь час яны былі толькі рабамі сістэмы. З іх высмоктвалі энергію, каб сістэма і машыны маглі існаваць. Цяпер яны абудзіліся і змагаюцца супраць сістэмы машын і дапамагаюць абудзіцца іншым.

### 6. «Байцоўскі клуб»

Падабаецца і кніга, і экранізацыя. Гэта той выпадак, калі бачанне аўтара і рэжысёра супалі цалкам.

Гэта гісторыя ўказвае на праблему нашага спажывецкага грамадства, калі твае рэчы сталі важней, чым ты сам. Калі стала важней знешняя атрыбутыка так званага дасягнення поспеху... Чаму б проста зараз не прачнуцца іншым чалавекам? «Ты – гэта не твой кашалёк! Ты – не твая праца! Ты – не рахунак у банку! Ты – не марка аўто!» – моцныя словы з кнігі!

### 7. «Маленькі буда»

Фільм расказвае пра тое, як будысцкія манахі з Ламай Норбу шукаюць рэінкарнацыю настаўніка Ламы Дорджэ.

Фільм раскрывае будысцкі светапогляд, і паралельна ідзе біяграфічная лінія сюжэта аб жыцці Сіддхартха Гаўтамы – першага чалавека, які стаў Будай і павярнуў кола Джармы. Гэта выдатны фільм, калі вы захочаце пазнаёміцца з будызмам. Ролю Буды выконвае **Кіяну Рыўз**.

### 8. Red Dead Redemption 2

Гэта камп'ютарная гульня. Я лічу, што цяпер камп'ютарныя гульні – асобны від мастацтва.

Падчас гульні трапляеш у свет, калі паміраў стары «Дзікі Захад» – мяжа стагоддзяў, 1899 – 1907 гады. Распрацоўшчыкі гульні дасягнулі такога рэалізму, што нават зрэнкі ў вачах усіх людзей на святле звужаюцца, а ў цемры павялічваюцца.

Тут поўная свабода дзеянняў, можна даследаваць свет, а ён вельмі вялікі, і на шляху здараюцца розныя выпадковыя падзеі. Калі ўжо даследаваў свет і вырашыў прайсці сюжэт, чакае вішанька на торце – сюжэт вельмі моцны. Ім цалкам пранікаешся, а пасля застаюцца добрыя ўспаміны, як пасля выдатнай кнігі.



Фота забяспечана Максімам ЦІХАНАВЫМ.

Юрыст і актывіст з Вілейкі Максім Ціханаў.

# «Гэта ціск Захаду». Што расійская прапаганда казала пра перанос чэмпіянату свету па хакеі з Мінска

**У першай палове студзеня расійская прапаганда актыўна асвятляла навіны пра чэмпіянат свету па хакеі, які павінны быў прайсці ў Мінску і Рызе ў маі 2021 года. Галоўны лейтматыў прапагандыстаў – размовы пра перанос матчаў з Мінска з'яўляецца прамым уплывам Захаду на Беларусь.**



Ілюстрацыйнае фота Настассі УТКІНАЙ.

Дагэтуль невядома, у якой краіне пройдзе чэмпіянат свету па хакеі-2021.

### Пад уплывам Захаду

13 студзеня партал «Спутник Беларусь», які належыць МІА «Россия сегодня», размясціў каментарый латвійскага палітыка **Руслана Панкратава**. Панкратаў каментаваў словы міністра замежных спраў Латвіі **Эдгара Рынкевічса** аб тым, што правядзенне чэмпіянату свету ў Мінску было б зусім недапушчальна. Панкратаў назваў словы міністра русафобнымі. Аднак не патлумачыў, якім чынам русафобія датычыцца Беларусі і пераносу хакейнага чэмпіянату.

Панкратаў сказаў, што крытыка беларускіх уладаў і заклік да адмены чэмпіянату – выгадная стратэгія для заходніх палітыкаў, і для латвійскіх у тым ліку. Аднак заклікаў да адмены чэмпіянату не было. Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці, тварам якога з'яўляецца спартсмена **Аляксандра Герасіменя**, настойваў менавіта на пераносе гульняў з Мінска. Бо, па меркаванні актывістаў, правядзенне часткі турніру ў Беларусі азначала б легітымізацыю кіраўніцтва **Аляксандра Лукашэнкі**.

Панкратаў лічыць, што заклікі да пераносу спартыўнага спаборніцтва – гэта ўплыў Захаду на Беларусь і на беларускія ўлады. Гэты ўплыў яшчэ будзе ўзмацняцца. Панкратаў ніяк не звязвае гвалт сілавікоў пасля выбараў з імкненнем актывістаў перанесці чэмпіянат. Па яго меркаванні, Рынкевічу трэба было б выказаць абурэнне пасля штурму Капітолія і спачуванні загінулым, але гэта нявыгадна. А вось крытыка беларускіх уладаў зусім іншая сітуацыя.

### Хто такі Панкратаў

Руслан Панкратаў – лідар латвійскай партыі «Дзеянне». «Дзеянне» – прарасійская партыя. На апошніх выбарах у латвійскі Сейм кандыдаты ад партыі не змаглі прайсці. Аднак гэта не перашкаджае Панкратаву прасоўваць прарасійскія ідэі ў Латвіі і для расійскіх прапагандысцкіх выданняў, кшталту, «Спутника».

Панкратаў неаднаразова быў спікерам для беларускага тэлебачання наконт жнівеньскіх падзей. Ён называў іх «спробай асобных сіл разгайдаць сітуацыю ў Беларусі».

### Матчы з Мінска ўсё-ткі перанеслі

18 студзеня прайшло пасяджэнне савета Міжнароднай федэрацыі хакея, на якім вырашалі пытанне па пераносе гульняў чэмпіянату свету па хакеі-2021 з Мінска. Савет прыняў рашэнне перанесці матчы з-за небяспекі.

Кіраўнік Міжнароднай федэрацыі хакея **Рэнэ Фазэль** пасля даў некалькі інтэрв'ю, у якіх казаў, што правядзенне чэмпіянату свету ў Мінску было б недарэчным праз палітычную сітуацыю ў краіне.

Дагэтуль невядома, у якой краіне пройдуць гульні, што павінны былі адбыцца ў Мінску. Федэрацыя хакея Беларусі пацвердзіла, што беларуская зборная не адмовіцца ад удзелу ў турніры.

**Настасся УТКІНА.**

# Пачалі з'яўляцца імёны дэлегатаў на Усебеларускі сход з рэгіёна

**Усебеларускі народны сход павінны адбыцца 11-12 лютага. Імёны дэлегатаў пачалі з'яўляцца на старонках раённых газет – большасць з іх займаюць кіраўнічыя пасады на дзяржаўных прадпрыемствах і з'яўляюцца дэпутатамі.**

«Рэгіянальная газета» публікуе спіс вядомых імёнаў. Спіс штодзень абнаўляецца на нашым сайце.

### Маладзечна

Маладзечаншчыну на Усебеларускім сходзе будуць прадстаўляць **Наталля Глінская**, **Юры Юкевіч** і **Аляксандр Барэйка**. Глінская працуе дырэктарам у Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школе-інтэрнаце. Юкевіч – намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце «Вялес-Міта». Барэйка – дырэктар маладзечанскай школы №11. Усе трое дэлегатаў з'яўляюцца дэпутатамі мясцовых Саветаў дэпутатаў.

### Вілейка

Ад Вілейшчыны пакуль вядома імя толькі аднаго дэлегата – **Дзмітрыя Бандарэнкі** – ляснічага Іжанскага лясніцтва.

### Ашмяны

Дэлегаты ад Ашмяншчыны – **Андрэй Горбач**, **Мікалай Квяткевіч**, **Наталля Станкевіч**. Горбач – начальнік аддзела па надзвычайных сітуацыях у Ашмянах. Квяткевіч займае пасаду старшыні Ашмянскага раённага Савета дэпутатаў. Станкевіч працуе на кіраўнічай пасадзе ў райвыканкаме – яна намеснік старшыні.

### Смаргонь

Пацверджанымі кандыдатурамі ў якасці дэлегатаў на Усебеларускім сходзе ад Смаргоншчыны з'яўляюцца **Міхаіл Найдзіч** і **Вікторыя Шчабярака**. Найдзіч займае пасаду дырэктара смаргонскай ЖКГ, а Шчабярака – намеснік старшыні райвыканкама.

### Мядзел

Ад Мядзельшчыны на сход паедуць **Жанія Бандаронак**, **Вікторыя Кумішча**, **Наталля Варабей**. Бандаронак – дэпутат Княгінінскага сельскага Савета дэпутатаў. Кумішча – дырэктар Занарацкай сярэдняй школы. Варабей працуе культарганізатарам Нарацкага сельскага Дома культуры і яшчэ з'яўляецца дэпутатам Нарацкага сельскага Савета дэпутатаў.

### Астравец

Ад Астравеччыны вядома найбольшая колькасць імёнаў дэлегатаў. Гэта **Віялета Алексеявец**, **Ірына Шляхтун**, **Віктар Алёкса**, **Рыгор Доўгі**, **Уладзімір Мажэйка**, **Генадзь Бычко**. Алексеявец працуе першым сакратаром Астравецкага БРСМ. Шляхтун з'яўляецца старшынёй раённага савета ветэранаў. Алёкса – галоўны заатэхнік СВК «Гудагай». Доўгі – дырэктар Астравецкага лясгаса, Мажэйка – галоўны доктар Астравецкай цэнтральнай раённай клінічнай бальніцы. А Генадзь Бычко – намеснік старшыні райвыканкама.

**Настасся УТКІНА.**

# Жаночая зборная Беларусі па баскетболе будзе змагацца за месца на чэмпіянаце Еўропы

**Жаночая зборная Беларусі па баскетболе згуляе тры матчы ў рамках кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы. Баскетбалісткі паспрабуюць выйграць месца на чарговым для сябе еўратурніры.**




Настасся Верамеенка падчас матча з Вялікабрытаніяй у кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы.

### Перамога супраць Вялікабрытаніі

17 лістапада 2019 года беларускі згулялі супраць Вялікабрытаніі ў першым матчы кваліфікацыі.

> **Яны дамагліся буйной перамогі з лікам 90:59. Нагадаем, што прадстаўніцы зборнай Вялікабрытаніі на чэмпіянаце Еўропы ў тым жа годзе занялі чацвертае месца, а беларускі не змаглі выйсці з групавога этапу.**

Найлепшай у камандзе пад кіраўніцтвам **Наталлі Трафімавай** стала баскетбалістка **Настасся Верамеенка**, яна зарабіла дабл-дабл (набрала 17 ачкоў і 11 падбораў).

### Планы перакрэсліў каронавірус

У лістападзе 2020 года беларускі павінны былі згуляць супраць Польшчы ў кваліфікацыі, аднак каманда так і не паехала на турнір у Стамбул. Планы беларускай каманды сапсаваў кавід – у паловы каманды былі станоўчыя тэсты на каронавірус.

### З кім гуляем у лютым

На наступным тыдні беларускі згуляюць тры матчы супраць Польшчы і Вялікабрытаніі.

> **Такі графік будзе толькі ў беларускай каманды, таму што яны прапусцілі праз каронавірус гульню з полькамі ў лістападзе.**

Усе матчы пройдуць у сталіцы Латвіі Рызе.

3 лютага, 15:00 – супраць Польшчы.

4 лютага, 14:30 – супраць Вялікабрытаніі.

6 лютага, 14:30 – супраць Польшчы.

### Чаго чакаць ад выступлення беларусак

Зборная Беларусі не гуляла ў міжнародных турнірах ці трэніровачных матчах больш за год. Каманда застаецца без практыкі, але баскетбалісткі ў сваіх клубах – беларускіх і замежных – маюць дастаткова гульнявага часу.

> **Перад галоўным трэнерам Наталляй Трафімавай паўстае пытанне зладжанасці дзеянняў нацыянальнай зборнай.**

Асаблівую ўвагу трэнерскі штаб будзе звяртаць на размеркаванне сіл паміж трыма гульнявымі кваліфікацыямі.

Яшчэ адно пытанне па-за спартыўнай сферай паўстае перад зборнай: як будзе працаваць камандная «хімія», калі ў камандзе ёсць баскетбалісткі, што падпісалі ліст спартсменаў за новыя выбары і супраць гвалту, і **Юлія Рыцікава**, якая падпісала праўладны ліст. Дарэчы, Рыцікава стала адзінай прадстаўніцай нацыянальнай зборнай па баскетболе, якая аддала свой подпіс за гэты ліст.

Гэтыя пытанні трэба будзе вырашаць у першую чаргу Наталлі Трафімавай, бо ад выступлення зборнай на кваліфікацыі залежыць далейшы лёс каманды.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Сныціна выставіла на аўкцыён бронзавы медаль Еўрабаскета-2007

Беларуская баскетбалістка **Кацярына Сныціна** выставіла на аўкцыён бронзавы медаль Еўрабаскета-2007.

– Выставіла гэты медаль на аўкцыён, каб падтрымаць беларускі народ. Рэпрэсіі супраць спартсменаў не спыняюцца. Мой народ запалохваюць, падманваюць, прыніжаюць. Мне неабыякавая будучыня маёй краіны, – расказала Сныціна.

Сродкі ад продажу медаля пойдуць у Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці. Задачай фонду з'яўляецца падтрымка спартсменаў, якія пацярпелі за сваю грамадзянскую пазіцыю, а таксама тых, хто гатовы адкрыта выказвацца аб падзеях, якія адбываюцца ў Беларусі.

**«Трыбуна».**

## «Чэлсі» звольніў Лэмпарда

Галоўны трэнер «Чэлсі» **Фрэнк Лэмпард** пакінуў сваю пасаду. Лонданскі клуб аб'явіў аб адстаўцы 42-гадовага спецыяліста.

– Гэта было вельмі складанае рашэнне, не з тых, што лёгка даліся ўладальніку і савету дырэктараў. Мы ўдзячныя Фрэнку за тое, чаго ён дамогся ў якасці галоўнага трэнера клуба. Аднак апошнія вынікі і гульні не адказвалі клубным чаканням, каманда знаходзіцца ў сярэдзіне табліцы і не дэманструе прагрэсу, – сказана ў заяве «Чэлсі».

Чакаецца, што новым трэнерам стане **Томас Тухель**.

**Паводле chelseafc.com.**

## Федэрацыя хакея Беларусі абмяркоўвае з Міжнароднай федэрацыяй памер кампенсацыі за перанос чэмпіянату свету

Федэрацыя хакея Беларусі абмяркоўвае з Міжнароднай хакейнай федэрацыяй памер кампенсацыі за рашэнне перанесці чэмпіянат свету-2021 з Мінска.

Рашэнне аб пераносе матчаў чэмпіянату з Мінска прынялі на фоне палітычнай сітуацыі ў Беларусі пасля выбараў прэзідэнта ў жніўні.

**rsport.ria.ru.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Група прадстаўнікоў ад якой-небудзь арганізацыі, калектыву, дзяржавы.
6. Твор станковага жывапісу, выкананы фарбамі на палатне, дошцы, паперы.
7. Адсутнасць існавання, жыцця.
8. Атмасфера, якая бачная з зямлі.
9. Дакладнае лагічнае азначэнне паняцця, якое ўключае найбольш істотныя яго адзнакі.
11. Транспартны сродак, прызначаны для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.
12. Помнік у гонар падзеі або на ўшанаванне чыёй-небудзь памяці ў выглядзе высокага гранёнага слупа, звужанага ўверсе.
13. Орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл.
14. Каштарыс прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства або ўстановы на пэўны тэрмін.
15. Паводле міфа іракезаў.
16. Штучная мова, якую вучыў Янка Маўр.
20. Невялікая парнакапытная жвачная жывёліна сямейства пустарогіх.
21. Зняважлівы ўчынак, зняважлівае слова.
22. Невялікае, звычайна закрытае, памяшканне спецыяльнага прызначэння. Напрыклад, для пілота ў самалёце, вадзіцеля ў аўтамабілі.
23. Месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла, птушка.
25. Герметычна ізаляваны праваднік або некалькі такіх праваднікоў у адной ахоўнай абалонцы, які служыць для падводнай і падземнай перадачы электрычнай энергіі, для сігналізацыі, сувязі.
27. Лёгкія сані, спецыяльна абсталяваныя для выезду.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Месца, з якога выходзяць на транспарце.
3. У заходнееўрапейскай міфалогіі – казачная істота, дух прыроды, добразычлівы да людзей.
4. Праверка ведаў.
5. Пачуццё, перажыванне чалавека.
7. Умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі.
10. Водная прастора паміж мацерыкамі.
12. Органы кіравання ва ўстанове, арганізацыі, на прадпрыемстве.
13. Асоба, якая замяшчае каго-небудзь.
17. Сукупнасць усіх гукаў ад ніжэйшага да вышэйшага, даступная якому-небудзь музычнаму інструменту або чалавечаму голасу.
18. Шматгадовая расліна з цвёрдым ствалом і галінамі, якія ўтвараюць крону.
19. Род літаратурных твораў, напісаных у форме дыялогу без аўтарскай мовы і прызначаных для пастаноўкі на сцэне.
24. Каталіцкі манастыр са сваімі ўладаннямі.
26. Павадыр статка, чарады.

## Адказы на крыжаванку з №4

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Моцарт. 3. Жыхар. 4. Жанчыны. 6. Бомба. 7. Вядро. 11. Брат. 12. Начлег. 13. Жылуновіч. 15. Нездарма. 16. Жывапіс. 17. Рыга. 22. Натура. 24. Кнігі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Перамога. 3. Жгут. 5. Вячэра. 6. Буклет. 8. Нагода. 9. Мележ. 10. Вышка. 11. Бурбалка. 14. Голас. 16. Жаргон. 18. Захопнік. 19. Вітаўт. 20. Нястача. 21. Вулкан. 23. Вёрткі.

## ● ГАРАСКОП НА 29 СТУДЗЕНЯ – 4 ЛЮТАГА

**АВЕН.** Вы адчуеце шмат клопату ад людзей, ад якіх не хацелі б такой увагі. Вам захочацца пабыць у цяні, адчуць сябе ў такой абстаноўцы, калі ніхто не будзе перашкаджаць рабіць сваю справу.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы будзеце поўныя сіл і энергіі, каб увасобіць у жыццё новыя ідэі і праекты. Вам будуць вельмі патрэбныя грошы, і можа паўстаць сур'ёзнае пытанне, як выканаць абяцанае ў патрэбны тэрмін.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам будзе вельмі важная падтрымка сяброў, таму паклапаціцеся, каб правесці час разам. Поспех прыйдзе да тых, хто сумленны і шчыры і з дарагімі людзьмі, і з партнёрамі па прафесіі.

**РАК.** Усё справы будуць узаемазвязаныя. З аднаго боку, усё спляцецца ў складаны клубок, разабрацца ў якім будзе не проста. З іншага, гэта дапаможа справіцца адразу з вялікай колькасцю спраў.

**ЛЕЎ.** Думкі і пачуцці, якія вы раней хацелі схаваць, цяпер лепш будзе раскрыць і быць шчырымі. Гэта тычыцца як працоўнай сферы, так і асабістай. Не спяшайцеся брацца за праекты, якія вам нецікавыя. Добра ўзважвайце магчымасці здароўя.

**ДЗЕВА.** Спатрэбіцца адстойваць асабістыя межы і нават даваць адпор. Не саромейцеся, дзейнічайце так, як адчуваеце патрэбным. Будзьце пільныя наконт фінансавых прапаноў. У рамантычнай сферы магчымая нечаканая прапанова.

**ШАЛІ.** Небяспечнай для поспеху можа аказацца звычка доўга разварушвацца. Калі не паспяшацца, можна выпусціць з рук важныя праекты, якія маглі б прынесці сур'ёзны прыбытак. Паездка можа прынесці нечаканы падарунак.

**СКАРПІЁН.** Будзьце пільныя ў размовах з малазнаёмымі людзьмі. У гэты перыяд вы заўважыце, што вельмі падатлівыя, вас будзе лёгка пакрыўдзіць. Прычым камяні ў ваш агарод могуць паляцець з таго боку, з якога зусім не чакалі.

**СТРАЛЕЦ.** Вам давядзецца тэрмінова наводзіць парадак. Наладжваць розныя сферы жыцця. Многія з іх крыху расхісталіся за апошні час, і ад вас спатрэбяцца сур'ёзныя высілкі, каб усё наладзіць.

**КАЗЯРОГ.** Вам спатрэбіцца шмат фантазіі, каб выйсці з заблытаных сітуацый, якія ўзнікнуць на шляху. Па працы давядзецца выконваць шмат работы, якую спярша не планавалі браць на сябе.

**ВАДАЛЕЙ.** Абставіны будуць складвацца такім чынам, што ўсё будзе вам на карысць. Вы будзеце самі здзіўляцца, як атрымліваецца так усё гладка даводзіць да ладу. Памятайце, што ў гэтым ёсць доля шанцавання.

**РЫБЫ.** Удача будзе спрыяць тым, хто зможа перамагчы лянота і абыякавасць. Калі зможаце працаваць настойліва і аддана, атрымаеце выдатны вынік, які з самага пачатку і не спадзяваліся атрымаць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | | | 5 | 9 | | | |
| 9 | | | | 2 | | | 1 | 5 |
| 2 | | | 6 | | 1 | | 9 | |
| 4 | 8 | | 7 | | | | | |
| | 7 | 1 | | | | | | 8 |
| | 2 | 6 | 1 | | 4 | | | |
| | | 5 | 2 | | | | 6 | 4 |
| | 4 | | | | | 3 | | 9 |
| | | 7 | 3 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

## САВАЗ: Перамагчы каронавірус будзе складана

**Выканаўчы дырэктар праграмы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (САВАЗ) па надзвычайных сітуацыях у галіне аховы здароўя Майкл Раян заявіў, што перамагчы каронавірус будзе складана, нягледзячы на прагрэс у барацьбе з ім.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Раян не выключыў, што COVID-19 стане эндэмічным захворваннем – цалкам ліквідаваць яго наўрад ці ўдасца, піша РБК.

– Чалавецтва змагло перамагчы пакуль толькі воспу, – сказаў Раян. – Ліквідаваць жа такія хваробы, як поліяміэліт і адзёр, да гэтага часу не ўдалося.

Гэтак жа і з каронавірусам будзе справіцца не проста: у прыватнасці, таму, што COVID-19 пашыраецца амаль ва ўсіх краінах свету, а доступ да вакцыны пакуль ёсць не ва ўсіх.

У краін ёсць магчымасць знізіць смяротнасць ад яго і вярнуцца да нармальнага жыцця, калі вакцынацыя будзе паўсюднай.

На гэты момант у ЕС і ЗША ўхвалена прымяненне вакцыны супраць каронавіруса Pfizer/BioNTech. У Расіі зарэгістраваныя і ўжываюцца дзве вакцыны «Спутник V» і «ЭпиВакКарона».

Паводле звестак Універсітэта Джонса Хопкінса, колькасць выяўленых выпадкаў каронавіруса ў свеце набліжаецца да ста мільёнаў, памерла больш за 2,1 мільёна чалавек.

**Паводле РБК.**

## Чытайце праз тыдзень:

**«Рэцэпт просты – дрожджы, мука і вада», – адказвалі жанчыны, калі ў іх пыталіся аб прыгатаванні смаргонскім абаранкаў. Толькі чамусьці абаранкі са Смургоняў былі знакамітыя далёка за межамі рэгіёна, ішлі на экспарт і доўга не чарсцвелі. А яшчэ, кажуць, што імі любілі паласавацца студэнты смаргонскай акадэміі.**

## 30 студзеня, субота

**Вецер:** заходні, 5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -30,8°С у 1970 годзе
Максімальная тэмпература +4,8°С у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,2 мм у 1972 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Калі вы не паспелі падпісацца на 2021 год, можна выпісаць газету ў студзені, і яна будзе прыходзіць вам ад лютага

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальная газета», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)* *632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці ёсць палітыкі, якімі захапляюцца ў Маладзечне?



**Крысціна:**
– Хутчэй не, чым так. Я не скажу, што цікаўлюся палітыкай. Мабыць, больш творчы бок цікавіць. Для мяне гэта вялікая частка жыцця, таму цікаўлюся творчай дзейнасцю людзей.



**Ігар:**
– Павел Паўлавіч Латушка. Ён інтэлігентны, на роднай мове размаўляе. Для Беларусі стараецца ўсё рабіць.



**Зінаіда:**
– Я не захапляюся Расіяй, але лаяльна да яе стаўлюся і да яе прэзідэнта Пуціна таксама. У нас такое асяроддзе, што няма кім захапляцца.



**Міхаіл:**
– Мяне задавальняе гэта ўлада. Ад дабра дабро не шукаюць. Ёсць праца, я ў крэдытах, але крэдыты плачу, і на працу хаджу. Адзінае скажу, што правільна Лукашэнка робіць, што не закрывае прадпрыемствы праз каронавірус.



**Аляксандр:**
– Напэўна, у свой час быў такім палітыкам Машэраў – яскравы, ім захапляюся. Ён для народа стараўся ў шкоду савецкім законам, не ішло ўсё ў Расію, а больш заставалася ў краіне.



**Зінаіда:**
– Мне Лукашэнка, Пуцін, Аліеў падабаюцца. Падабаюцца валявыя мужчыны, як Лукашэнка. Выйшаў і не даў перавярнуць нашу краіну. Гэта маладым трэба ўсё і адразу. А мы перажылі 90-я гады, і карткі, і чэргі. А цяпер толькі працуй, а ім трэба ўсё: зарплаты малыя, машыны. Не, гэтыя на плошчы бэчэбэшнікі мяне бесяць.



**Ангеліна:**
– На дадзены момант, гэта Святлана Ціханоўская. Раней асабліва не цікавілася палітыкай, але цяпер прыходзіцца, таму што трэба жыць у гэтай краіне далей.

**Падрыхтаваў аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1344) 29.01.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 150. Падпісана ў друк у 9.00 28.01.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.